## ЗЬМЕСТ.



1-ая Дзярж. друк. Зак. № 1100. У ліку—2100+635 экз. Галоўлітбел № 23757.

Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 3 м-цы . . . — р. 45 к.
„ 6 „ . . . — р. 90 к.
„ 12 „ . . . 1 р. 80 к.

ДВОХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ Орган ЦКЛКСМБ і НАРКОМАСЬВЕТЫ БССР

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Пл. Волі, Наркомасьветы БССР.

**№ 1-2** **СТУДЗЕНЬ** **1927 г.**



На лыжы! На санкі!—За скарыстаньне сьвежае паветра!



# Мужыцкі сказ аб Леніну

*Адрывак з апавяданьня* **Л. Сейфулінай.**

...За сто вёрст, багатай сьнегам ды бурамі зімой тысяча девяцьсот восемнаццатага, ехаў за навінамі ў горад мужык Мікіта Мінушаў. І захапіў мяне з сабой. Пякучы, халодны вецер і востра калючая дарога прымусілі нас яшчэ да зьмярканьня павярнуць на начлег. У хаце ў знаёмых Мінушава, на старэнькім драўляным ложку, на драўляных услонах ля стала, за пазялянеўшым самаварам, было многа заехаўшых сюды на начлег падарожнікаў. Таксама знаёмыя гэтых гаспадароў. Таксама за навінамі ў горад, не баючыся перамеценай завеямі дарогі. Да зьмярканьня аглядвалі адзін другога затоенымі мужыцкімі вачыма. Мяняліся, як звычайна пры спатканьнях, паведамленьнямі аб цэнах на збожжа, аб адсутнасьці тавараў патрэбных, і вельмі асьцярожна аб новых парадках.

Але ў час, калі ад бруднай мужыцкай адзежы, аб дыханьня зьбітай у маленькай хатцы групы людзей пачаў хмурнець і моргаць аганёк лямпачкі пад стольлю, разгаманіліся бабы. І сухашчавая з шэрым тварам хутаранка, з выцьвіўшымі чорнымі вачыма, расказала для тых, хто ня спаў, сказку пра Леніна. Як Ленін з царом народ падзялілі:

„Вось прыходзіць адзін раз да цара Мікалашкі самы галоўны яго генэрал. „Так і так, ваша царская вялікасьць, у нейкім царсьцве, у нейкім гасударсьцве знайшоўся ўсім навукам вывучаны дапатопны чалавек. Невядомага ён чыну-вялічаньня, бяз пашпарту, а па празваньню Ленін. І грозіць гэты самы чалавек: на цара Мікалая прыду, усіх царовых салдат адным словам сабе забяру, а генэралаў, усіх начальнікаў афіцэраў-благародзію і цябе, цар Мікалай, на порах сатру і на вецер пушчу, слова такое ёсьць у мяне“. Спужаўся тут Мікалашка-цар, нагамі затупаў, рукамі застукаў, моцным голасам закрычаў: „Адпішэце хутчэй вы чалавеку чыну-вялічаньня невядомага, бяз пашпарту, а па празваньню „Леніну“, хай ня зьбіраецца з тым словам на мяне, ня трэ на порах мяне, генэралаў маіх, начальнікаў, афіцэраў-благародзію, а за тое аддам я чалавеку таму паўцарства свайго!“ Набеглі тут да цара людзі вучоныя, хутка-хутка, з задышкай, натачылі пер'я гострыя, адпісалі таму Леніну: „Так і так, ня йдзі ты, Ленін, на цара Мікалая са словам тваім, а забірай сабе паўцарства Мікалаевага бяз бойкі, бяз сваркі“. І доўга ці мала, а хутка адказ прыслаў пісьмовы той чалавек, чыну-вялічаньня невядомага, бяз пашпарту, а па празваньню Ленін.

І адпісвае Ленін цару Мікалашку: „Так і так, апісвае, згодзен я атрымаць ад цябе, цар Мікалашка, палавіну царства твайго. Толькі адпісваю я табе ўмову, як мы дзяліцца з табой будзем. Ні па губэрнях, ні па паветах, ні па валасьцёх. А вось як, адпісваю я табе, на які падзел я з табой згаджуся, і што бяз ніякіх больш перагавораў. Забірай ты сабе, цар Мікалашка, усю белую косьць: генэралаў, начальнікаў, афіцэраў-благародзію з усімі іх заслугамі, з усімі іх чынамі, крыжамі, на-



І сухашчавая хутаранка расказала сказку пра Леніна.

градными эпалетамі, з жонкамі іх далікатнымі, з дзецьмі іх белакостнымі. Ягамосьцяў паноў з усім іх багацьцем, з адзеньнем шоўкавым і аксамітным, з пасудай срэбнай пазалочанай, з жонкамі іх і з усім родам. Забірай сабе купцоў з таварамі іх, з казною нязьлічонаю, ды з банкаў няхай забяруць усе грошы свае. Забірай сабе ўсіх фабрыкантаў з іх грашыма, і з машынамі, і з усім іх фабрычным багацьцем—скарбам. А мне аддавай усю чорную косьць: мужыкоў, салдат, фабрычных, з мізэрным іх скарбам. Толькі жывёлу на развод пакінь, палі травяныя ды зямлю-матку ўрабляць“. Прачытаў ліст Мікалашка-цар, заскакаў, затупаў нагамі ад радасьці, заляпаў у ладкі ад весялосьці і загадаў

сваім генэралам, афіцэрам і начальнікам: „Зараз-жа адпішэце таму Леніну, што з усім я згадзіўся. І які-ж ён усім навукам навучаны, слова патайное ведаючы, калі ад усёй казны нязьлічонай маёй, ад тавараў купецкіх, ад скарбаў панскіх адмаўляецца, а забірае сабе чорную косьць бяз усялякай злыбяды. А на гэту казну мы сабе другую чорную косьцьноймем, з тых нанятых салдат набярэм, і будзем жыць ізноў спакойнымі, багатымі". Пабеглі тут ізноў да цара, хутка-хутка, з задышкаю, людзі вучоныя, натачылі пер'я гострыя, адпісалі таму Леніну царскую згоду. А наконт насьміханьня і ня рэкнулі, каб не апамятаўся ды не пашоў на іх з патайным словам сваім. Доўга гэта было ці коратка, а ў хуткім часе наяжджае ціха-ціхусенька тут Ленін да сваіх салдат, мужыкоў і фабрычных. А цар, забраўшы косьць сваю белую, далей ад'ехаў. Глядзяць мужыкі, салдаты, фабрычныя, а прыехаў да іх прасьценькі чалавек сялянскі і кажа ім: „Таварышы, добры дзень вам!" Куды вочы абхапілі, за руку прывітаўся з усімі, і моцным голасам апавясьціў: „Буду з вамі я роўным, у аднолькавым становішчы, як ёсьць, мы цяпер таварышы. Толькі вы мяне слухайце, я ўсім навукам вывучаны і сваіх таварышаў дрэннаму не навучу". Салдаты па прывычцы сваёй зараз: „Так точна, таварыш Ленін, слухаюся!" фабрычныя, гарадзкі народ пісьменны,таксама яму не пярэчылі. А мужыкі пакрыўдзіліся, што ашукаўся ўсё-ж Ленін, зашумелі, загаманілі, заварушыліся: „За што, праз што выпусьціў з рук казну і багацьце нязьлічонае? Падзяліў-бы нам, мы-б гаспадарку паправілі". Засьмяяўся тут Ленін, галавой паматаў і сказаў у адказ ім слова такое; „Ня крычэце, ня шумеце, забірайце зямлю і жывёлу і гаспадарце. А там будзе відаць. Не хапіла-б казны той для вас, як ёсьць вас нязьлічоныя тысячы, а белай касьці малыя соценькі. А наконт таго, каб усю белую косьць зусім з сьвету белага зьвесьці, дык слова я ведаю, яшчэ няпоўнае. Не дакумекаў крышку. Але ёсьць у мяне другое, праўдзівае слова на ўсю чорную косьць на зямлі. Як скажу яго—і нідзе белая косьць ня знойдзе сабе ні салдатаў, ні работнічкаў. Усе пад маю руку прыдуць, а ад іх адмовяцца. І як ёсьць яны не здабытчыкі, а прыжытчыкі, дык ім доўга на белым сьвеце ня выстаяць". І доўга гэта было ці коратка, а ў хуткім часе, як сказаў, і здарылася так. Прыехаў верхавы да Леніна, прывёз яму вестку ад Мікалашкі-цара. І адпісвае у гэтай вестцы Мікалашка-цар: „Так і так, Ленін, ашукаў ты мяне. Узяў сабе ўсю чорную косьць, а мне аддаў не здабытчыкаў, а пражытчыкаў. Генэралы мае, афіцэры-благародзія, як коні стаенные бяз салдат нашых. Толькі п'юць, ядуць ды сала гадуюць. Ягамосьці паны ўсе прыпасы свае канчаюць, адзежу з сундукоў данашваюць... Прагаргаваліся купцы мае, бяз мужыкоў няма каму тавар ім свой ляжалы збываць. Фабрыканты мае ўсе машыны пазьбівалі, папсавалі. Няма разуменьня гэткага ў іх, толькі па кніжцы й ведаюць, а з шрубамі ніяк ня зладзяць. А чужаземны чарнакостны народ на службу да нас не наймаецца, пад тваю руку цягне, на твае слова патайное. І калі дайшлі мы да такой справы, што хоць лажыся ды памірай, дык ідуць на цябе

вайной генэралы мае, афіцэры-благародзія, каб адваяваць нам назад да сябе ўсю чорную косьць“. І за гэта цяпер вайна пашла белай касьці з чорнай.

Толькі доўга белай касьці ня выстаяць, бо прывыклі генэралы, афіцэры-благародзія каманду толькі салдату падаваць, войска туды сюды перакідаць, а самі ў вайне адбівацца няпрывычныя,—жыла ўжо іх такая тонкая. І нядоўга ім на белым сьвеце выстаяць.

Патухла лямпа. Храплі мужыкі. Мармытала спрасонку баба. А худашчавая старая хутаранка, седзячы на кажусе сваім, на падлозе, працягла, напэўна выгаварвала сьмешныя і захапляючыя словы сваёй казкі. У яе былі дадаткі і адхіленьні, якіх я ня памятаю. Не памятаю точных слоў, але характар слоў, зьмест, рытм мовы яе я памятаю. Як цяпер чую. Таму сьмела і перадаю. Гэта—першая мужыцкая легэнда аб чалавеку з імем Ленін у бедным легэндамі павеце, дзе патухла яскравасьць шмат якіх імён. І для мяне—яна пераконваючае засьвядчэньне: тугая мужыцкая душа паверыла Леніну. Толькі аб тым мужык расказвае сказы, што ўвайшло ў яго сэрца і памяць у жывых вобразах, чаму ён паверыў. Вось чаму ў сумны час я не баюся сьмешных слоў простай яго казкі. Гэтымі казкамі ўваходзіў Ленін у душу к мужыку. І я шкадую, што не магу цяпер прыпомніць яшчэ адзін сказ башкірына-падводчыка. Трэба з вялікай увагай успомніць злучэньне ім пасобных слоў, характар, з якім апавядаў ён і рытм мовы. А гэтага цяпер мне не зрабіць. Ён гаварыў аб чырвоным цюры (начальнік, ягамосьць) Леніне, які башкірцаў ад рускай жорсткасьці і хітрасьці абараняў. Рознапляменны склад жыхарства часта служыў прычынай доўгіх спрэчак, іншы раз і крывавых боек у павеце. Роўна несьвядомыя былі, роўна і жорсткія. Доўгія іх спрэчкі яшчэ ня скончаны. Скончацца толькі тады, калі прыдзе сьвядомасьць, веда, а з імі і павага да рознаверцаў і рознакроўных. У гэтым павеце і цяпер шмат якія рускія сяляне кіргізаў і башкіраў лічаць за нейкіх ніжэйшых паганых істот. Яны вып'юць з аднаго кубка з заразьлівым, але пасьля здаровага башкірца ня возьмуць кубка. А ў Леніна верылі і тыя і другія.

---

## Машына.

У разгоне машын ад відна да відна
Чую песьню вясёлую, новую...
І бясконца сваімі гудкамі яна
Шэпча штось нявыразнымі словамі.
А такога разгону ніяк ня стрымаць,
Што шыпіць і гудзіць сотняй гуламі.

І далёка гудкі, ой, далёка чуваць!
Яны сэрца ў грудзёх ўскалыхнулі мне...
Дык бясконца, машына, шумі і шумі,
Шлю табе я сваё прывітаньне!
Засьпявай песьню новую, песьню вясны
Пра вялікае наша паўстаньне.

Вучань **Ал. Розна.**

---




# Шустры Вожык

*Казка піонэра К. ШАВЕЛЯ.*

*Малюнкі П. ГУТКОЎСКАГА.*

I

У Цімохавай каморы
Вожык жыў бяз смутку й гора.

І бяз меры быў ён ласы
Да мышачынага мяса.

Спрытны вожык гэты быў:
Заўжды мышы ён лавіў.

Не ўцячэ тут ні адна...
Ад зьмярканьня да відна

(Цёмнай ночкаю ў цішы)
Ён лавіў іх і душыў.

Вартаваў ён жыта й сала
Так, каб мышка не чапала.

І быў добры вартаўнік!
Так у працу сваю ўнік,

Што ніводнай не дапусьціць:—
Зловіць мышку,—кроў ёй спусьціць!
Для мышэй быў страшны вожык,
Заўжды хэўру іх трывожыў!
Заўсягды—вясной, зімою—
Ня даваў ён ім спакою.

II

Раз сабраліся ўсе мышкі
Над каморою на вышкі,

І пачалі гаварыць,
Як на сьвеце далей жыць.

Шмат сабралася тут іх
І старых і маладых.

Вось на жэрдачку адна
Ўзьлезла так, што ўсім відна.

Палілася тут гаворка
Аб жыцьці мышыным горкім:
— Таварышы, мышы!
Старыя й малыя,
Прышлі ў жыцьцё наша
Дзянёчкі ліхія...
Заўжды у каморы
Нас трывожыць вожык.



Палілася тут гаворка
аб жыцьці мышыным горкім.

Трэба нам сабрацца
Ды яго стрыножыць.
Бо як не зьбярэмся
Гэту справу ўвесьці,
Дык ня будзе хутка
Ўсім нам чаго есьці.
Бо калючы вожык
Нішчыць нас заўсёды,
Ўсюды нас пужае,
Зьнішчае выгоды,
Ён нас ня пускае
Ў скрынку есьці жыта.

А як гэта зробім—
Будзе тады квіта.
Пасьля гэтае прамовы
Зноў бярэ яна вось слова.
І так да ўсіх яна сказала,
Што да шчэнту напужала:
„Ах, галубкі, ціха, ціха,—
Зноў паўзе да нас, вунь, ліха!
Гэта ён, паганы вожык,
Уцякайце хто як можа!
І ўсе мышы, як клубкі,
Паляцелі на бакі.
Тут і вожык не драмаў:
Шмат якую з іх дагнаў.
Сьмерць на месцы ім рабіў,
Вось які ён спрытны быў!
Праз хвіліну вожык жвавы
Усе вышкі акрывавіў.

III

Раз надумаў Шустры вожык
Купіць гостры сабе ножык,
Паляваць каб лепш на мышак
Цёмнай ночкаю ў зацішшы.
Вось пашоў ён у мястэчка,
Што стаяла тут за рэчкай,
І, купіўшы сабе ножык,
Прэ назад да хаты вожык.
Хоць і грошы абышліся—
Але мышка сьцеражыся!
Сеў пад скрыняй ён у ночы
І наставіў свае вочы
У ва ўсе куткі каморы,—
Будзе мышкам цяпер гора!
Ўсюды жудасьць, усюды цьма
А мышэй няма й няма!
Раптам вожык паглядае,
Скача мышка маладая.
Скача так што й нястрымаць,
Шустры наш за яе—хваць!—
Мышка тут аж абамлела,
І да вожыка нясьмела
Праз сьлязу яна сказала:
„Пажыла я яшчэ мала:
Дык на гэты раз прасьці
І да мамкі жыць пусьці!“
— Пачакай!—сказаў тут вожык,
— Будзе ў сэрцы тваім ножык,
Як ня знойдзеш адваката,
Што пусьціць цябе да хаты
У апраўданьне скажа ён,—
Будзе дзень—з апошніх дзён!“
— Добра,—мышка тут сказала,
І хвосьцікам замахала:
„Сьветку хутка я знайду,
Зараз, зараз прывяду.“

IV

А тым часам мышка-Нурка
Па ўсіх бегала канурках,
І туды, й сюды скакала:
Адваката, бач, шукала!
Ажно бачыць, што павук,
Навіў нітак белых пук.
І сядзіць, як грубіян,
Тое чэрава, як жбан,
На нагах яго вісіць,
Пад ім муха там пішчыць.
Ля яго мышка спынілась,
Да зямлі аж пакланілась,
Ды так кажа да яго:
„Пашкадуй жыцьця майго:
Будзь маім ты адвакатам,
Пойдзем к вожыку да хаты;


... Шустры наш за яе—хваць!

Вожык, бач, мяне злавіў,—
Адвакатам ты-б мо‘ быў?
За мяне слаўцо сказаў,—
Вожык, бач, так загадаў.
Калі будзеш адвакатам—
Пусьціць ён мяне да хаты.“
— Ах дурная ты авечка!—
Кажа так павук з гнязьдзечка:
Я надумаўся думу:
Не паказвайся яму,
Ды адно, кажу, глядзі—
У камору больш ня йдзі!

Будзеш жыць ды пажываць,
Ды мяне успамінаць!

— Не, рабіць гэтак ня трэба:
Дзе-ж вазьму тады я хлеба,

Як ня там, у той каморы?
Будзе мне тады, брат, гора!

Даў паук нарэшце згоду,
Стала неяк яму шкода

Ад усёй свае душы
Маладзенькай тэй мышы.

V

Мышка-Нурка з адвакатам
Ідзе к Шустраму да хаты.

На шляху спаткала матка:
„Куды йдзеш, маё дзіцятка?

А як Нурка расказала,
Вельмі сумнай матка стала.

Смутку й крыўды, ой, як многа!—
Ды ня зробіш тут нічога...

Раз папалася у нерат,
Не скачы ні ўзад, ні ўперад!

VI

Доўга блыталася мышка,
Пакуль зьлезла яна з вышкаў,

Ну, а з ёю і касматы.
Вось, і вожыкава хата.

Дзьверы ціха адчынілі
І да вожыка ўвалілі.

— Добры дзень!—сказаў касматы,—
„Я зьяўляюсь адвакатам,

Адвакатам гэтай мышкі,
За яе скажу ня крышку:

— Ты пусьці, яе, да хаты,
Бо яна не вінавата!

Есьці-ж кожнаму патрэбна,
Ды у скрынях вашых хлебна.

Не пакрыўдзіць яна вас,
Калі ўкрадзе жыта з раз.

Ды яна-ж яшчэ дзіця
І бяжыць куды хаця!

— Выбачайце, пан вяльможны,
Гаварыць мне так няможна!—

Сказаў Шустры наш нарэшце:—
„Трэба вас абоіх зьесьці!

Абамлеў тут наш касматы:
„Дык як так? Я-ж адвакатам!

Дык хацяўжо мне прасьцеце,
А яе хоць задушэце.

— Раз душыць, дык абаіх,—
Шустры так сказаў да іх:—

„Смокчаш ты, брат, з мухаў кроў,
А яна ў добры час,

Крадзе з скрынь маіх дабро,
Дык я зьем, абоіх вас!



Мышка-нурка з адвакатам ідзе к шустраму да хаты.

# ЧАЛАВЕК ІДЗЕ.

Апавяданьне **Янкі Маўра.** Малюнкі **А Тычыны.**

*(Працяг*)*

III.

Напад гіэнаў. Барацьба за здабычу. Мастадонты. Засталіся людзям „рогі ды ногі". Чарапаха. Вялікія вынаходкі, якія засталіся незаўважанымі. Чалавек у бойцы. Бойка насарога з махайродамі.



оч праходзіла. Людзі спакойна сабе спалі і ня чулі, што нешта набліжаецца. Ужо некаторы час здалёка адчуваліся нейкія няпрыемныя галасы, нібы гаўканьне, нібы рогат. Гукі паўтараліся, станавіліся ўсё бліжэй і бліжэй, але ніхто з людзей іх яшчэ ня чуў.

Прашло яшчэ некалькі хвілін,—і, вось, у цемнаце замільгалі фігуры нейкіх жывёлаў, трохі падобных да сабакаў, але больш прыткіх, з тоўстай шыяй, з нахіленай назад сьпінай. Уздоўж усёй сьпіны тарчала нібы-то грыва, а папярок бакоў відаць былі нейкія палосы.

Гэта былі гіэны, якія і цяпер жывуць, галоўным чынам, у Афрыцы. Гэтыя агідныя зьвяры кормяцца больш усякай падлаю і рэдка нападаюць на людзей, нават, калі яны і сьпяць. Гіэны пачулі аленяў труп і асьцярожна сталі падбірацца да яго. Адзін за другім падышлі і пачалі цягаць і грызьці.

Бурчэньне і хруст разбудзілі людзей. Яны трывожна закрычалі і паўскаквалі на ногі.

Гіэны спалохаліся і адбегліся назад.

Людзі сабраліся каля аленя і нарыхтаваліся абараняць сваю здабычу.

Але гіэны разласваліся і не хацелі адыходзіць; яны толькі зайшлі з другога боку і зноў пачалі набліжацца. Вось яны ўсё бліжэй і бліжэй, вось ужо відаць гарачыя вочы, чуецца скрыгат зубоў, вось ужо засталося некалькі крокаў...

Што было рабіць няшчасным бяззбройным людзям? Адыйсьці і аддаць сваё багацьце? Не, гэтыя зьвяры не такія ўжо страшныя, каб адступацца ад іх. Лепш з кулакамі і зубамі распачаць з імі барацьбу...

І ўсе разам, быццам дагаварыўшыся, кінуліся яны на разбойнікаў. Напад быў такі грозны і шумны, што гіэны перапужаліся, завярнуліся назад і зьніклі ў цемры.

Лёгка ўздыхнулі нашы людзі. Посьпех надаў ім бадзёрасьці і сьмеласьці. Лішні раз яны пераканаліся, якую перавагу дае дружны агульны наступ. Да гэтага часу толькі гэта адно іх і падтрымлівала, замяняла ім зброю.

Але гіэны зусім яшчэ не пашлі. Праз нядоўгі час яны зноў пачалі набліжацца, праўда, больш асьцярожна і павольна, але няўхільна. Калі падышоў крытычны момант, іх зноў таксама прагналі.

Так было некалькі разоў. Усю ноч гіэны трымалі людзей у страсе, у аблозе.

Набліжалася сьвітаньне. Становішча не зьмянілася.

Вось з лесу пачуўся новы шум, як быццам набліжалася цэлае войска. Трашчала гальлё, ламаліся дрэвы. Вось ужо відаць, што йдуць нейкія вялізарныя зьвяры, падобныя да сланоў. Яны йшлі якраз у гэты бок, відаць, на вадапой. Гіэны адышлі крыху далей, а людзі пабеглі назад. Але, убачыўшы, што зьвяры не зьвяртаюць на іх аніякай увагі, людзі супакоіліся, спыніліся і сталі глядзець, што будзе.



Гіэны спалохаліся і адбегліся назад.

Жывёлы гэтыя, хоць і падобны былі да нашых сланоў, але былі больш за іх, прынамсі, у два разы. Даўжыня іх цела дасягала 8—10 мэтраў. Галава іх была даўжэйшай, чым у сланоў, а хобат значна карацейшы. Галоўнай-жа адзнакай былі біўні, клыкі. Іх было чатыры, зьверху і зьнізу па два; яны былі роўныя, тарчалі проста наперад, як калы, прычым, ніжнія былі кароткія, а верхнія мелі 3—4 мэтры даўжыні.

Гэта былі так званыя мастадонты, якіх цяпер ужо няма на сьвеце. І, мусіць, аднэй з галоўных прычын іхняга зьнікнавеньня і былі гэтыя недарэчныя клыкі, якія перашкаджалі ім браць яду. Яны маглі браць толькі тое, што знаходзілася ў паветры, вышэй ад зямлі, напрыклад, лісьце, плады. З зямлі яны нічога не маглі ўзяць, бо клыкі-калы ўпіраліся ў зямлю, і, нават, хобат ня мог дапамагчы, як дапамагае нашым сланом, бо хобат мастадонта быў карацейшы за верхнія біўні.

Параўняўшыся з трупам аленя, пярэдні мастадонт падхапіў яго сваімі клыкамі і кінуў далёка ў бок. Зараз-жа падскочылі гіэны і разарвалі яго на кавалкі.

А людзі павінны былі толькі глядзець, як гэтыя стварэньні даканчвалі іх яду, так цяжка здабытую.

Мастадонты напіліся і прашлі назад, а гіэны тым часам зусім скончылі аленя, пакінуўшы людзям толькі „рогі ды ногі“.

Зноў прыходзілася пераходзіць на падножны корм; зноў цэлыя дні траціць на шуканьне living рознае, больш-менш страўнае, дробязі.

Скончылася сьвята, зноў пачаўся будзень. Такі выпадак, як здабыча цэлага аленя, мог здарыцца ня хутка, можа праз шмат месяцаў.

Зноў разышліся ва ўсе бакі, зноў пачалі лавіць жукоў, чарвякоў і розных дробных жывёлаў, зноў пачалі шукаць плады, лісьце і карэньні.

Гэтыя карэньні яны вядома выкопвалі рукамі, і толькі ў тых выпадках, калі гэта лёгка было зрабіць. Калі цяжка—яны кідалі і шукалі другога.

Але здараліся такія выпадкі, калі ежы было мала і шкода было кі-



Гэта былі так званыя мастадонты.

даць. Тады яны больш тузаліся над ім. Адна жанчына, капаючыся такім чынам, неяк няўмысьля ўхапіла трэсачку і пачала капаць ёю. Яна адразу пачула, што праца йдзе значна хутчэй і лягчэй. Тады яна такім спосабам выкапала і другі корань.

Але калі яна перашла на другое месца, то ўжо і забылася аб сваёй вынаходцы. Яна не дамысьлілася ні ўзяць з сабой сваёй прылады, ні пашукаць тамака іншае і таксама капалася, як і раней.

Бывалі і з другімі такія самыя здарэньні і таксама яны канчаліся нічым. Чалавек блукаўся каля самага вялікага моманту свайго жыцьця, таго моманту, калі ён вось-вось пачне карыстацца прыладай і гэтым самым адразу выперадзіць усе другія стварэньні на зямлі.

Але ня так гэта лёгка і хутка робіцца, як здавалася-бы. Нядарма-ж да гэтага часу аніводная жывёліна не навучылася сьвядома карыстацца прыладамі.

Дзеля гэтага трэба ўмець наглядаць і рабіць вывады на будучае. А гэта і мы з вамі не заўсёды ўмеем рабіць.

Аднаго разу нашы людзі ўбачылі нейкую жывёліну, роўную, круглую. Яна паўзла па зямлі так павольна і нязграбна, што людзі зараз-жа заўважылі, што яна пашкодзіць ім. Гэта была наземная чарапаха*).

Людзі абхінулі яе, сталі разглядаць, але яна зараз-жа спынілася, уцягнула ў сябе галаву, лапы і хвост і перастала варушыцца. Пакраталі яе—цьвёрдая, як камень, падступіцца нельга. Спрабавалі ўсадзіць руку ў дзіркі—драпаецца.

Тады той хлапец, аб якім мы раней казалі,—будзем зваць яго Ра,—неяк узяў галіну і сунуў яе ў дзірку. Чарапаха заварушылася, высунула ногі і галаву і пасунулася наперад проста на хлопчыка.


Гэта была наземная чарапаха.

Той спужаўся, падняў уверх руку з галінай і... выцяў ёю чарапаху па сьпіне. Раздаўся крэпкі гук—і сухая галіна разьляцелася на кавалкі.

Чарапаха зноў схавалася. Так і гэтак пробавалі да яе прыступіцца, але хутка пераканаліся, што нічога з ёю ня зробіш,—і пакінулі яе. І ніхто ня ведаў, што на іх вачох адбылося самае вялікае дзеяньне ў гісторыі ўсяго чалавецтва: чалавек першы раз падняў узброеную руку на зьвера.

І гэта вялікае дзеяньне так і засталося незаўважаным, так, пакуль што, і не дало аніякіх вынікаў, бо не дало беспасрэднай карысьці.

Па дарозе ім прышлося абмінаць вялікае дрыгвяное балота. Яно было заросшае травой, зялёнае, як луг, але калі толькі хто пробаваў ступіць туды нагой—зараз-жа яго зацягвала балота.

У некалькіх кроках ад берага, на купіне стаяў бусел і спакойна глядзеў на людзей, як быццам ведаючы, што яго нельга патрывожыць, бо ня дойдзеш да яго. Краг ня вытрымаў і кінуўся да яго. Бусел узьляцеў, а чалавек увяз у балоце і стаў апускацца ўсё глыбей.

Людзі ішлі міма і не зварочвалі на яго ўвагі.

Краг убачыў, што справа дрэнная і пачаў трывожна крычаць. Трывога перадалася другім. Людзі згрудзіліся на беразе, замятусіліся, махалі рукамі. Некаторыя пробавалі падыйсьці да Крага, але зараз-жа павінны былі вярнуцца назад.

*) Чарапах цяпер маецца яшчэ многа (каля 200 парод), нават і на Беларусі. Але асабліва вялікія (да 12 пудоў) і рэзнастайныя маюцца ў цёплых краінах. Яны бываюць вадзяныя і наземныя. Размнажаюцца яечкамі. Жывуць вельмі доўга: гадоў 200. Могуць доўга трымацца без яды: да $1^1/_2$ гадоў, а ў адным выпадку было 6 год. Калі адрэзаць галаву, чарапаха можа яшчэ жыць 2 тыдні. Мяса яе лічыцца вельмі смачным.

Краг біўся, капашыўся, але паступова, няўхільна апускаўся, ўсё глыбей і глыбей. Прашло некалькі хвілін, марудных, цяглых. Людзі стаялі, глядзелі і пачалі траціць цікавасьць. Некаторыя ўжо адвярнуліся ў другі бок, другія адышлі. Можна было чакаць, што ўражаньне аслабне і яны зусім зьнікнуць.

А небарака тымчасам апусьціўся да плеч.

Блізка ад яго ляжала сухая верхавінка маладога дрэўца, якое зламалася і ўпала адным канцом на балота, а другі застаўся на беразе. У астатні момант Крагу ўдалося ўхапіцца за гэтую верхавіну і ён пацягнуў яе да сябе.

Другі канец заварушыўся, як быццам запрашае пацягнуць яго. Але... людзі стаялі сабе і глядзелі, альбо мятусіліся бяз сэнсу. І толькі праз некаторы час павадыр ухапіўся за канец і стаў цягнуць. Тады ўжо і астатнія прынялі ўдзел.

Але ня лёгкая справа выцягнуць чалавека з багны. Цягнулі ўсе, хто толькі мог зачапіцца. І па іх тварам відаць было, што ня толькі фізычнай сілай яны працуюць, але і галавой. Яны адчувалі вялікі сэнс гэтае справы і навочна бачылі карысьць гэтае жардзіны, як прылады.

Вось ужо выцягнулі да пояса. Краг трымаўся залезнымі рукамі за збавіцельную верхавінку і... вось... яна адламалася... Людзі пакаціліся на зямлю, ня ведаючы, што здарылася. Потым падняліся, неўразуменна сталі азірацца адзін на другога, ня ведаючы што рабіць.



Але... людзі стаялі і глядзелі, або мятусіліся бяз сэнсу.

А Краг тымчасам зноў пашоў уніз. Вось ужо па шыю... вось ужо да падбародка... вось ужо і рот у гразі, і крыкі сьціхлі... толькі вочы глядзяць сьмяртэльным поглядам, просячы сваіх братоў аб ратунку...

Настаў самы крытычны момант. Ці здагадаюцца нашы людзі зрабіць тое, што яны павінны зрабіць?

Можа цяпер хто-небудзь з нас усьміхнецца над такім пытаньнем, але хай ён памятае, што каля яго напэўна ёсьць шмат чаго такога, чым ён сам таксама ня можа дамысьліцца карыстацца і што для другога, больш ведаючага, таксама будзе сьмешным.

Выратавала жаночае сэрца. Агу, тая самая дзяўчына, аб якой мы казалі, з нейкім натхненьнем кінулася наперад, ухапіла жардзіну і працягнула яе да рук Крага.

Тады ўжо ўсе ўхапіліся і з вялікім усілкам выцягнулі няшчаснага з багны. Ён быў блізка што няпрытомны і доўга яшчэ, лежачы на сухім беразе, трымаўся за канец дрэва.

*(Працяг будзе).*

---

# Піонэрскія прыпеўкі.

У садочку ціха, пуста:
Ўсе завялі кветачкі.
А дзе толькі не паглядзіш —
Піонэры-дзетачкі.

Паламаў ветрык каліну,
З сьвету белага згубіў.
Я атрад свой піонэрскі,
Ох, як дужа палюбіў.

Вецер гольлі нахіляе,
Гольлі к долу хіляцца.
Відаць, Ян будзе здаровы—
Заўжды чыста мыецца.

Над маёю галавою
Гудзеў страшна авадзень.
Ах, атрад наш піонэрскі
Пашыраецца штодзень.

Над вакном маім бярозка
Белая калоціцца.
Піонэр актыўны Сашка
Аб усім клапоціцца.

Ён ня толькі у атрадзе
Абавязкі знае ўсе,
Але дома раніцою
Дроў ахапак прынясе.

Пад страхою роднай хаткі
Не шчабеча ластаўка.
Атрымала у атрадзе
Сабе гальштук Настачка.

І да беленькай сукенкі
На грудзёх павесіла.
Ёй ад радасьці дзяцінай
Было люба, весела.

**Зах. Бульбянік.**



У сьнежні м-цы мінулага году ў г. Бабруйску адбылася конфэрэнцыя гарманістых. На нашым здымку самы маладзейшы ўдзельнік гэтай конфэрэнцыі—піонэр **М. Вярнікоўск.**

# ПРЫРОДА—НАВУКА—ТЭХНІКА.

## Волхаўская электра-гідрастанцыя.

Канец мінулага 1926 году прынёс працоўным СССР вялікую радасьць. 19 сьнеж. па рацэ Волхаву, каля Ленінгр. (адлег. 120 кілёмэтраў), была ўрачыста, у прысутнасьці старшыні Саўнаркому СССР т. Рыкава, адчынена першая ў нашым Саюзе вялізарная вадзяная электрагідрастанцыя, якая будзе падаваць электрычную энэргію (сілу) для фабрык, заводаў і асьвятленьня Ленінграду і яго ваколіц.



Паданьне вады з турбіны.

Чаму-ж са ўсіх канцоў СССР—і ад рабочых і ўраду БССР— Ленінградзкі пролетарыят і будаўнікі „Волхаўбуду“ — рабочыя, тэхнікі і інжынэры—атрымалі шчырыя прывітаньні?

Таму, што *„Волхаўбуд“—дзіцянё Уладзіміра Ільліча Леніна.* Ён задумаў і даў наказ Ленінградзкім рабочым распачаць пабудову электрастанцыі, якая-б давала Ленінградзкай прамысловасьці танную электрычную сілу. Гэта было ў 1918 г.

Цяжка было выканаць гэтую сьмелую думку Ільліча і рабочых Ленінграду. У першыя гады рэвалюцыі трэба было ўсе сілы, усе сродкі кідаць супроць ворагаў Кастрычнікавай рэволюцыі — шматлікіх царскіх генэралаў (Дзянікіна, Юдэніча, Калчака, Урангэля) і чужаземцаў—ангельцаў і, нарэшце, палякаў. Цяжка было будаваць станцыю ў гады голаду — 1921—1922 г. г.

Але рабочыя і ўрад СССР моцна памяталі і добра разумелі думку Уладзіміра Ільліча, што „камунізм—гэта савецкая ўлада, плюс электрафікацыя (прамова на VIII Зьездзе Саветаў), гэта значыць, што толькі пры дапамозе электрычнай сілы мы здолеем перабудаваць нашу гаспадарку і сваё жыцьцё на сацыялістычны лад. Рабоча-сялянскі ўрад напружваўся і знаходзіў сродкі і сілы на пабудову. Сам Уладзімір Ільліч, пакуль быў жыў, заўсёды дапамагаў гэтаму.

Многа грошай каштавала пабудова гэтае станцыі, 15 тысяч рабочых працавалі і карміліся на Волхаўбудзе, многа сродкаў мы павінны былі аддаць чужаземным дзяржавам за дарагія машыны і прылады, якіх ня можна было зрабіць на нашых фабрыках і заводах.

Каля 100 мільёнаў патрачана на будоўлю самой станцыі і ўсяго, што выклікалася гэтай будоўляй. Але дзякуючы дарэмнай сіле вады, якая прыводзіць у рух станцыю замест дарагога апалу, электрычная энэргія з гэтай станцыі выходзіць амаль што ў тры разы таней электраэнэргіі з паравых станцый.

Гэта захоўвае, ці, як кажуць, дае эканоміі, каля 9 мільёнаў рублёў на год, — і, такім чынам, праз нядоўгі час усе выдаткі на станцыю будуць зьвернуты.

Як-жа пабудавана Волхаўская гідрастанцыя? Як выкарыстана сіла вады ракі Волхава?

Рэчка гэта вялікая, суднаходная, цячэ яна з возера Ільменя ў возера Ладаскае, плынь яе досыць шпаркая. Выбралі месца, дзе вадаспад найбольшы (блізка Ладаскага возера, каля чыгуначнай станцыі Званкі) і перагарадзілі раку моцнай тацьцю (плацінай) з бэтону (цэмэнт, ка-

мень і жалеза), зрабіўшы ў ёй заслоны дзеля спуску і затрыманьня вады, калі гэта патрэбна. Дзеля праходу суднаў зрабілі абходную канаву і шлюзы. На беразе, каля грэблі, пабудавалі самую станцыю, вялізарны будынак у некалькі паверхаў.

Пад станцыяю падвялі аграмадныя трубы, у якія можна пушчаць ваду з вышыні, падняўшы заслоны. Вада з вялікай сілай (з вышыні ў некалькі мэтраў) падае ў турбіны. Гэта вялізарныя вадз. колы, зробленыя з мэталю; яны круцяцца вельмі шпарка і моцна. На Волхаўскай станцыі такіх турбін пастаўлена 8, з іх 4 вялікія швэцкія ўжо працуюць і кожная дае каля 10.000 конскіх сіл. Калі гэта перавесьці на чалавечую сілу — дык такую моц могуць даць 100.000 рабочых, (1 конская сіла=10 чалавечым).



Машыннае аддзяленьне Волхаўскай электрастанцыі.

Калі ўсе 8 турбінаў будуць разгортваць на працягу году, у сярэднім, моц 50.000 конскіх сіл (а ня 80), дык і гэта, у тры зьмены, складзе паўтара мільёны рабочых у адны суткі! І усёй гэтай вялізарнай сілай, гэтай арміяй сіл, можа кіраваць—пушчаць і затрымліваць—адзін працаўнік, які стаіць ля кіравальных прыладаў станцыі! Вось дзе моц чалавека, які перамог сілы прыроды!

Да турбіны прыстасаваны дынамамашыны, якія сілу турбін ператвараюць у электрычную сілу. Каб накіраваць і захаваць гэту электрычную сілу, на станцыі маецца шмат усялякіх прылад і прыстасаваньняў.

Па таўстому дроту, захованаму ў гумку (кабэлю) электрычная энэргія перадаецца ў Ленінград. Па дарозе электрычны ток праходзіць праз 8 паніжаючых станцыяў, якія перарабляюць яго, зьмяншаючы вялікую напружанасьць, і нарэшце, у Ленінградзе—на дапаможнай станцыі—электрычная энэргія разь мяркоўваецца і падаецца куды патрэбна.

Яшчэ ня зусім закончана Волхаўская станцыя, але сьвятло і моц яе ўжо заблішчалі і на Ленінградзкіх заводах і вуліцах, і ў хаце рабочага і селяніна, якія жывуць блізка перадатачных станцый.

Гэта ўдача дае рабочым і сялянам Саюзу бадзёрасьць будаваць новыя і новыя гідрастанцыі,—яшчэ больш магутныя, яшчэ больш дзіўныя. Ужо будуюцца такія станцыі на р. Сьвіры (каля Ладаскал. воз.)—„Сьвірстрой“, і УССР—„Дняпрострой“.

Тады, калі кола такіх станцыяў ахопіць наш Саюз,—шпарка пойдзе наперад наша гаспадарка і жыцьцё.

Дык няхай жывуць наказы Ільліча!

С. Ж.

# Вада зімою і летам.

Прыемна бывае летам у вялікую сьпякоту адпачыць дзе-небудзь каля халоднай крынічкі, альбо на беразе ракі, якая імчыць свае воды кудысьці далёка ў мора. Бывае часамі наўкола такая моцная гарачыня, што ад яе жыцьця няма, а ад рэчкі, ад возера, альбо ад крынічкі павявае халадком, нясе ад іх прахалодаю, і ты адчуваеш вялікую асалоду, калі адпачываеш у гэты час каля вады. Улетку пясок і іншыя сухія рэчы на зямлі так моцна награваюцца, што часамі на іх ня можна ступіць босаю нагою, бо можна нават апячы нагу. Вада-ж у гэты час даволі халодная, значна халадней, чым акаляючае паветра, і тады бывае вельмі прыемна выкупацца ў такой халоднай вадзе.



Конькабежац-калека (Менск). Гэты калека езьдзіць на каньку ня горш за любога іншага канькабежца.

Зусім інакш выглядае вада зімою. Ад яе ўжо ня вее халадком. Яна ўжо не халадней за паветра, якое знаходзіцца наўкола яе, а наадварот, ад яе ўжо нясе часам параю, ды і наогул, вада ў рэчках і крыніцах зімою значна цяплей, чым паветра. Можа шмат каму з вас, дзеці, даводзілася бачыць, як з глыбокіх студняў, або ў рэчцы з-пад лёду, асабліва ў вялікія марозы, ідзе пара. Пара гэта ідзе ад таго, што вада зімою цяплей за паветра. Калі мы дышам, то таксама выдыхаем пару, але ў цёплую пагоду, летам, мы гэтае пары не заўважваем, а зімою ў мароз яна пераварочваецца ў драбнюсенькія капелькі вады і мы яе ўжо можам бачыць. Тое, што мы бачым, калі дышам на марозе, мы і называем параю, хоць гэта фактычна ня пара, гэта ўжо дробненькія капелькі вады, якія ад марозу згусьціліся і зрабіліся відочнымі. Просты народ гэтыя відочныя для вока капелькі назваў параю. Сапраўдную-ж вадзяную пару бачыць няможна, яна, як і паветра, нявідзіма. Паглядзеце, як кіпіць чыгун з вадою ў печцы. Ен можа ўвесь выкіпець і вы не заўважыце, як пара выходзіць з чыгуна. Варта-ж гэты чыгун дастаць з печы, як вы зараз-жа ўбачыце, што ад паверхні вады аддзяляецца дымок, які называюць параю. Гэта ня пара, а драбнюсенькія капелькі вады, тае вадзяное пары, якая знаходзілася ў паветры. Прынясеце халодную мэталічную рэч, у цёплую хату і вы ўбачыце, як на ёй зьявяцца каплі вады—гэта вадзяная пара, якая была ў паветры, яна дакрануўшыся да халоднай рэчы, астыла і ператварылася ў ваду, але гэтае

вадзяное пары вы ў хаце ня бачылі. Значыць, сапраўдная пара, як і іншыя газы, нявідочны. Вось вам, дзеці, яшчэ адзін прыклад: зімою вокны звычайна намярзаюць не з надворку, а з хаты, гэта з тае прычыны, што пара, якая знаходзіцца ў паветры пакою, дакранаецца да халоднага шкла, зварочваецца ў ваду і замярзае, а калі стане цёпла, лед ізноў прападае, значыць, ён ізноў пераходзіць у ваду і пару.

Але ад чаго усё-ж такі зімою, у вялікія марозы, з студняў і з рэк, з-пад лёду, ідзе пара? Каб зразумець гэта, давайце прыпомнім, якою бывае вада летам? Мы ўжо казалі, што вада летам бывае халодная, значна халадней, чымся акаляючае паветра і пясок. Вось давайце і разьбярэм спачатку ад чаго гэта бывае? Гэта, дзеці, бывае ад таго, што летам вада забірае ўсе сонечныя праменьні, якія падаюць на яе і зусім не адбівае іх ад свае паверхні. Можа вам не зразумела, што азначае слова „не адбівае“—гэта значыць, не адпіхае ад сябе. Кіньце вы мячык у сьценку і мячык адскочыць ад сьценкі; гэта значыць, што сьценка адбіла мячык назад, не дала яму магчымасьці ляцець далей. Так бывае і з сонечнымі праменьнямі: калі яны падаюць на зямлю, то яны адбіваюцца назад угару, а ад вады не адбіваюцца і йдуць далей у ваду. Вада можа забраць сонечных праменьняў разоў ў пяць болей, чым на яе падае, і тады толькі закіпіць. Вось дзеля таго, што вада летам не адбівае праменьняў, а пясок і наогул паверхня зямлі адбіваюць, то паверхня зямлі бывае значна цяплей за ваду, бо над паверхняю зямлі зьбіраецца праменьняў у два разы болей, чымся над паверхняю вады.

Каб лепш уявіць сабе, ад чаго гэта так бывае, то разгледзім гэта з дапамогаю малюнка пад № 1-м.




Мал. № 1.

На гэтым малюнку лінія ГЕ азначае паверхню зямлі. На гэту паверхню падае сонечны прамень, які на малюнку мы абазначым лініяй АВ. Гэты прамень адбіваецца ад зямлі і напэўна ён пойдзе ўгару па такому кірунку, па якому праведзена лінія ВК. Значыць, адзін і той-жа прамень АВ робіць падвойную працу: награвае паветра каля зямлі, калі падае на зямлю; упаўшы на зямлю, награвае самую паверхню зямлі, і

калі адбіваецца ад паверхні зямлі і йдзе па лініі ВК, то ізноў награвае паветра.

Зусім інакш стаіць справа з праменьнямі, якія падаюць на паверхню вады. Малюнак № 2 дапаможа нам уявіць ход гэтага процэсу.




Мал. № 2.

На гэтым малюнку лінія ГР абазначае паверхню вады. На гэтую вадзяную паверхню падае сонечны промень АЛ. Ен даходзіць да паверхні, трошачкі зьмяняе свой кірунак і йдзе далей па лініі ЛВ, але назад ужо не адбіваецца. Вось дзеля чаго над паверхняю вады заўсёды менш цяплыні, чымся над паверхняю зямлі, бо тут над вадою адзін промень ня робіць тае падвойнае работы, якую ён робіць над паверхняю зямлі, а дзеля гэтага ў сонечны дзень вада халадней за паветра. Трэба адзначыць, што паветра сонцам добра награваецца толькі нявысока над паверхняю зямлі, высока-ж у гары паветра бывае вельмі халоднае дзеля таго, што там сонечныя праменьні не затрымліваюцца і ўсе падаюць цалкам на зямлю.

Тая-ж сонечная цяплыня, якая ўсё лета з сонеч. праменьнямі падае ў ваду, пачынае выдзяляцца з вады назад тады, калі паветра над вадою зробіцца халаднейшым за ваду. А летам у сонечныя дні, калі паветра цяплейшае за ваду, цяплыня вады не выдзяляецца ў паветра, а наадварот, вада тады стараецца забраць цяплыню з паветра. Так бывае заўсёды, калі вы паставіце дзьве рэчы блізка адну каля другое, то халаднейшая рэч будзе забіраць цяплыню ў больш цяплейшай, напрыклад: цёплая печка ў хаце аддае сваю цяплыню халоднай паветры і дзякуючы гэтаму ў хаце бывае цёпла. Дык вось тая цяплыня, якая летам з сонечнымі праменьнямі падае ў ваду, робіць гэтую ваду зімою цяплейшаю за паветра. Апрача таго, гэтая-ж самая сонечная цяплыня, выходзячы зімою з вады, ператварае ваду ў пару, а гэта пара, дакранаючыся да халоднага паветра, ператвараецца ў драбнюсенькія капелькі вады, якія мы ўжо бачым і называем параю. Такім-жа самым парадкам утвараецца туман летам над рэкамі і вазёрамі: як толькі зойдзе сонца, сонечныя праменьні перастаюць награваць зямлю, паветра хутка астыне,

а вада пачынае ўжо аддаваць сваю цяплыню паветру. Гэтая цяплыня таксама, як і зімою, толькі ў значна большай меры, ператварае ваду ў пару, а гэта пара дакранаюч. халодн. паветра, пераварочв. ў дробненькія капелькі вады, якія і віснуць у паветры туманам. Той туман, які часам бывае летам і зімою над паверхняю зямлі, таксама ўтвараецца з вадзяное пары, якая знаходзілася высока ў паветры, але ноччу астыла і апусьцілася на зямлю туманам.

Мы ўжо даведаліся, ад якіх прычын вада летам бывае халадней, а зімою цяплей за паветра, але вось адкуль-жа бярэ цяплыню тая вада, што цячэ з глыбіні зямлі і сонцам ніколі не награвалася? Гэтая вада, што цячэ з глыбіні зямлі, награваецца тою цяплынёю, якая знаходзіцца глыбока ў зямлі. Вы, дзеці, ведаеце, што зімою мароз скоўвае зямлю толькі зьверху, а туды, глыбей у зямлі, марозу няма, там нават горача. Вось гэтая цяплыня і награвае тую ваду, якая знаходзіцца глыбока ў зямлі.

Цяпер, дзеці, калі пойдзеце зімою і летам гуляць з атрадам на рэчку, то вазьмеце з сабою тэрмомэтр і паглядзеце, колькі ён будзе паказваць градусаў цяпла зімою на паверхні зямлі і ў вадзе, а таксама зрабеце гэтае-ж самае і летам. Запішэце ўсё гэта, параўнайце і вы заўважыце, якая вялікая розьніца ў тэмпэратуры паміж вадою і паветрам узімку і ўлетку.

**Я. Кіпель.**



# Як самому зрабіць радзіопрыёмнік.*)

**Прыёмнік другога тыпу.** Гэты прыёмнік розьніцца ад першага тым, што па іншаму ўладжаны самаіндукцыя і па іншай схэме злучаюцца часткі прыёмніка. Акрамя таго, замест двух, ужываецца толькі адзін кондэнсатар.

Увесь прыёмнік зьмяшчаецца ў скрынцы з фанэры разьмерам 14×9.1/2×2.1/2. см. Самаіндукцыя навіваецца на асобным станочку-шпульцы, з якога пасьля здымаецца і зьмяшчаецца на дне скрынкі. Каб зрабіць станочак, трэба выразаць прадаўгаватую дошчачку 6 мілімэтраў таўшчынёю і з лёгка закругленымі краямі разьмерам 25 × 12 мм. (рыс. 1,1). З фанэры выразаюцца дзьве шчочкі, разьмерам роўныя даўжыні і шырыні скрынкі прыёмніка. Шчочкі прымацоўваюцца шрубкамі да сярэдняй дошчачкі (1) так, каб атрымаўся выгляд з боку, паказаны на рыс. 1,2. Пасьля гэтага на шчочках робяць прарэзы кутнікамі, як паказана на рыс. 1,3.


Рыс. № 1.

Пакуль навіваць самаіндукцыю, неабходна ў выразы станочка ўлажыць па аднэй нітцы, якою пасьля зьвязваюць вузлом маток самаіндукцыі. Навіваюць на станочак дрот таўшчынёю ня больш 0,45 мм., пакідаючы канец проваду знадворку ў адным з выразаў даўжынёю ня меньш 17 см. Першы вывад робіцца пасьля намоткі проваду прыблізна таўшчынёю на 3 мм. ад пачатку, другі вывад робіцца пасьля намоткі проваду таўшчынёю 4 мм. ад першага матка, трэці вывад робіцца на 3 мм. ад другога і г.д. да 8-га канца. Дзевяты маток можна навіць ад восьмага на 5—6 мм. Маткі навіваюцца ўсе ў адзін бок туга, вывады не разразаюцца, а выстаўляюцца ў прарэзах шчочак станка доўгаю пятлёю (17 см.)

Калі намотка скончана, самаіндукцыя зьвязваецца ніткамі і здымаецца з станочка, вывады прылучаюцца да кантактаў на веку скрыначкі. Усяго будзе 10 канцоў. Пачатковы канец прылучаюць да 9-га кантакту, як паказана на схэме (рыс. 2), а апошні канец злучаецца проста з зямлёю.

Ад кантактаў самаіндукцыі робяцца адводы да пяці кантактаў 2-га рэгулятара наступным парадкам: ад 2-га кантакта самаіндукцыі да 1-га кантакта другога рэгулятара, ад 4-га да 2-га, ад 6-га да 3-га, ад 8-га да 4-га і ад 9-га да 5-га.



Рыс. № 2.

Кондэнсатар робіцца з 12 лісткоў станіоля разьмерам 5×2 мм. Зьбіраецца кондэнсатар таксама як і ў першым прыёмніку.

Акрамя таго, робіцца пераключацель трымя кантактамі (гл. рыс. 2); ставячы рычажок на кантакт 1-шы, атрымоўваеш звычайную схэму прыёмніка, на 2-гі — атрымоўваецца іншая схэма. Рычажок, пастаўлены на 3-ці кантакт, зазямляе антэну.

*) Глядзі „БП“ № 11 за 1926 г.

Часткі прыёмніка злучаюцца паміж сабою так, як паказана на схэме (рыс. 2).

Антэна прылучаецца да рычажку пераключацеля, 2-гі кантакт пераключацеля прылучаецца да гільзы дэтэктара, 3-ці кантакт злучаецца з зямлёю. Рухомы кантакт самаіндукцыі злучаецца з 1-шым кантактам пераключацеля. Канец самаіндукцыі злучаецца з зямлёю. Рухомы кантакт 2-га рэгулятара злучаецца з падпоркаю дэтэктара. Адзін зажым кондэнсатара прылучаецца да гільзы дэтэктара, другі да зямлі. Тэлефон прылучаецца да зажымаў кондэнсатара. **Н. Булатаў.**

# Гульні.

### Колькі іх.

Часта бываюць такія выпадкі: стаіш перад зачыненымі дзьвярыма і чуеш, як у пакоі нехта гаворыць, часам, некалькі чалавек адразу. Ня ўдаваючыся ў тэму самой размовы, вельмі цікава адгадаць, хто гаворыць і колькі асоб.



Вось з такога выпадку і можна зрабіць гульню.

Адзін хлопчык застаецца ў пакоі, а яго таварышы выходзяць і зачыняюць за сабой дзьверы. Па назначэньню кіраўніка ўсе піонэры пачынаюць адначасова гаварыць і гавораць так у працягу хвіліны. Прыпыніўшы гаворку, кіраўнік заходзіць у пакой і дае пытаньне піонэру: „колькі чалавек гаварыла і хто іменна?“ Калі той не адгадаў, яму прыходзіцца прыслухоўвацца ў другі раз.

### Ахова пакету.

На стул садзіцца піонэр з завязаннымі вачыма. Яго рукі апускаюцца ўніз раўналегла тулаву. На каленях ляжыць пакет: якая-небудзь скрынка альбо хустачка. Зьвяно стаіць навокала яго і па чарзе пасылае за пакетам піонэраў. Мэта ўдзельнікаў гульні: падкрасьціся бяз усякага шуму да сядзячага на стуле, заўладаць пакетам, кабапошні не зауважыў і адыйці на некалькі крокаў. Той, хто ахоўвае пакет, мае права пры малейшым западазрэньні схапіць ворага за руку, тады апошні садзіцца на яго месца і гульня працягваецца.

Поўная цішыня, асьцярожнасьць і лоўкасьць неабходны, каб гульня прайшла з большай цікавасьцю.




# Дзіцячы рух на ўсходзе

*Японія.* Гэта адзіная на Ўсходзе краіна з разьвітымі капіталістычнымі формамі і апаратам для выхаваньня дзяцей. Комуністычных, рэволюцыйных, урэшце, проста організацый пролетарскіх дзяцей у Японіі няма. Існуючая школьная сетка ахоплівае 90 проц. усіх дзяцей. Усе школы знаходзяцца пад наглядам і кіраўніцтвам міністэрства народнай асьветы. Праграма школ накіравана ў бок падрыхтоўкі з дзяцей вернападначальных прыхільнікаў японскага царызму і існуючага там буржуазнага ладу.

У сучасны момант у японіі налічваецца 1557 бой-скауцкіх організ. з 217.563 сябрамі. Гэтыя організацыіі разам з урадавымі саюзамі моладзі, яднаючымі звыш $2^1/_2$ мільёнаў сяброў, знаходзяцца пад кіраўніцтвам і наглядам міністраў народнай асьветы і ўнутраных спраў. Па сацыяльнаму складу ў шэрагах бой-скаутаў больш усяго дзяцей сярэдняй і дробнай буржуазіі. Дзяцей рабочых у гэтай організацыі зусім нязначная колькасьць, бо ў вытворчым жыцьці краіны дзіцячая праца адыгрывае надзвычайна вялікую ролю. Так, напрыклад, з 5 мільёнаў японскіх рабочых на долю дзяцей і падлёткаў прыходзіцца 1.409.186. З апошніх—646.115 хлапцоў, дзяўчат—763.071.

10—11-гадзінны працоўны дзень, адсутнасьць законаў, якія б ахоўвалі дзіцячую працу, 200.000-ая маса няпісьменных падлеткаў і дзяцей занятых у вытворчасьці,—усё гэта не дае магчымасьці дзецям рабочых прымаць удзел у буржуазных дзіцячых організацыях.

Але ўздым японскага рабочага руху, рост яго клясавай і палітычнай сьвядомасьці ставіць на чаргу дня пытаньне аб організацыі пролетарскіх дзяцей у сваю пролетарскую організацыю.

*Кітай.* У краіне з 450 мільённым насельніцтвам, якая вядзе рашучаю барацьбу з сусьветным імпэрыялізмам, дзе маюцца організацыі комсамолу, комуністычнай партыі і нацыянальна-рэволюцыйнай партыі Гаміндан, дзіцячы рэволюцыйны рух толькі зараз формíруецца. Існуюць бой-скауцкія організацыі з агульнай колькасьцю 10.000 дзяцей, якія выхоўваюцца пад буржуазна-капіталістычным уплывам. Кітайскія бой-скауты па свайму соцыяльнаму стану зьяўляюцца, галоўным чынам, дзецьмі дробнай і сярэдняй буржуазіі.



Дзяцей рабочых амаль зусім няма ў скауцкіх організацыях, па тых-жа пры-

чынах, што і ў Японіі: беднасьць, някультурнасьць, няпісьменнасьць...

Працоўны дзень дзяцей цягнецца ад 12—16 гадзін. Працуюць яны і днём і ноччу, бяз вольнага дню на тыдны, пры адсутнасьці законаў аб дзіцячай працы. 90 проц. кітайскіх дзяцей і падросткаў, занятых у вытворчасьці, хварэюць сухотамі і іншымі хваробамі, альбо пакалечаны. За ўсю гэту жудасную працу дзеці атрымліваюць 10—15 капеек на дзень.

У сучасны момант, побач з бой-скаўцкімі організацыямі, пачынаюць у Кітаі ствараецца дзіцячыя пролетарскія організацыі. Гэты рух ствараецца і фарміруецца пад моцным уплывам посьпехаў піонэрскага руху ў СССР. Па тыпу і складу гэтыя організацыі падзяляюцца на дзьве групы. Першая група—гэта піонэрскія організацыі Паўночнай Манчжурыі, раскіданыя галоўным чынам па лініі Кітайска-Заходняй чыгункі. Гэтыя організацыі знаходзяцца пры профсаюзах і маюць у сваім складзе дзяцей расійскіх рабочых.

Другі тып, ужо чыста Кітайскіх піонэрскіх організацый, існуе на Поўдні Кітаю (у гар.: Шанхай, Ханькоў, Кантон).

Піонэрскія організацыі Шанхаю і Ханькоў склаліся толькі ў самы апошні час. Яны організаваны комсамольцамі, маюць рэволюцыйны характар, з формамі падобнымі да піонэратрадаў СССР. Гэтыя організацыі змаглі ўцягнуць у свае шэрагі шмат пролетарскіх дзяцей.

# Вынаходкі юнакоў.





Рэдакцыя часопісі „Знание—сила“ (Масква) правяла конкурс на лепшыя мадэлі, зробленыя дзяцьмі. На конкурс зьявіліся 30 юных вынаходцаў. Сярод мадэляў былі: тэлеграф, мікраскоп, аўтамабіль, дынамо, электра-печ, лісапэд з дрэва і г. д. Мадэлі былі зроблены з самага таннага „матар‘ялу“: шпылькі, стружкі жалеза і г. д.

На здымку (зьлева на права): Барыс Гарбуноў (Цьвярской губ.) з сваёй мадэльлю мікраскопа, зробленага з дрэва, Піменаў Алесь 16 г. (Падольскага пав.) з паравой машынай; Наважылаў Алесь, 15 гадоў, з мадэльлю лакамабіля, зробленага з старога жалеза, і Васіль Сьвечнікаў з мад. ветравой электрастанцыі, зробленай з фанэры.

# НАША ЖЫЦЬЦЁ

## Праца піонэраў і акцябрат.

### Больш увагі зьмене.

*(М-ка Багушэвічы, Аршаншчына).*

Пры нашым атрадзе ўжо даўно існуе група акцябрат. Улетку праца з імі вялася добра, бо была зацікаўленасьць як з боку піонэраў, гэтак і з боку акцябрат.

Але цяпер зусім ня тое. Піонэры, якіх вылучыў савет атраду дзеля працы з акцябратамі, нічога ня робяць, у тым ліку і павадыр групы. Атрад павінен зьвярнуць увагу на становішча групы акцябрат і наладзіць там працу. **У. С—скі.**

### Наш атрад расьце.

*(Бялынкавіцкі раён, Калінінскай акругі).*

Наш атрад пры Бялынкавіцкай сямігодцы к пачатку навучальнага году налічваў каля 60 чал. За кароткі час ён хутка вырас, з прычыны гэтага прышлося падзяліць яго на два атрады. Мясцовыя дзеці амаль кожны дзень падаюць у савет атрадаў заявы аб сваім жаданьні стаць піонэрамі. За іх лік атрады растуць далей.

Нядаўна перадалі некалькі піонэраў у комсамол. У сувязі з гэтым паслабла дысцыпліна, якая ў далейшым, спадзяемся, наладзіцца.

**Р. Бяздольны.**

### Яўрэйскія зьвеньні.

*(Заслаўскі атрад імя „Парыскай Камуны“).*

Доўгі час у нашым атрадзе існавалі варожыя адносіны паміж піонэрамі беларускай і яўрэйскай нацыянальнасьці. Каб зьнішчыць гэта зьявішча, савет атраду вылучыў асобнае яўрэйскае зьвяно, якое праводзіць усю працу на яўрэйскай мове. За кароткі час зьвяно настолькі вырасла, што яго прышлося падзяліць на 2. Выдаецца яўрэйская насьценгазэта. Цяпер ніякіх варожых адносін між піонэрамі не заўважваецца. Дзяткор **Сасінскі.**

### Карысная гульня.

*(М-ка Старобін, Слуцкай акр.).*

Наш атрад пачаў на сходах праводзіць новую гульню, якая зацікавала ўсіх і нават неорганізаваных дзяцей.

Замест таго, каб праводзіць сухую гутарку, тэму яе падзяляюць на асобныя пытаньні. Гэтыя пытаньні павінны цягнуць усе піонэры. Той, хто не адкажа на пытаньне, якое выцягнуў, перадае яго другому піонэру, а сам атрымлівае назву „палітдурня“.

Гэта гульня задаволіла ўсіх, у тым ліку і неорганізаваных дзяцей, якія пачалі прымаць удзел, пакінуўшы карты і іншыя некарысныя гульні.

**М. Варшал.**



## Праца заняпала.

*(Капыль, Случчына).*

У 1926 г. пры атрадзе № 14 імя Я. Адамовіча быў організаваны пікор-гурток. Працаю кіраваў комсамолец. У гуртку бюло амаль што не палова атраду. На занятках гуртка разглядалі розныя пытаньні: як працаваць пікор-гуртку, як пісаць у газэту і інш. Піонэры самі пісалі корэспондэнцыі, якія зачытваліся на гуртку. Некаторыя з іх перадаваліся ў цэнтральныя газэты. Цяпер-жа піонэры нават мала пішуць і ў насьцен-газэту, якая маецца ў нашым атрадзе. Тлумачыцца гэта тым, што піонэры ня ведаюць як пісаць. У насьценную газэту ў большасьці пішуць сябры рэдколегі, як больш сьвядомыя з гэтаю працаю.

Савет атраду, зьвярні на гэта ўвагу і вылуч на гэтую працу комсамольца. Бо піонэры цікавяцца гэтаю працаю.

**П. Гарошак.**

## Трэба палепшыць сваю працу.

*(Бацьвінаўскі піонэр-атрад, Крычаўскага раёну, Калінічшына).*

Пяць месяцаў таму назад Бацьвінаўская ячэйка ЛКСМБ організавала піонэрскі атрад, у які адразу запісалася да 50 піонэраў.

Ячэйка вылучыла аднаго з комсамольцаў павадыром атраду. Атрад стаў працаваць і пашырацца. Але піонэры (маладыя вясковыя хлопцы) ня ўмеюць належна весьці справу, а павадыр кепска адносіцца да сваіх абавязкаў.

Часта піонэры зьбяруцца, а павадыра няма і клюба няма каму адчыніць. Хлопцы пастаяць каля дзьвярэй і, пацалаваўшы замок, разыходзяцца... У другі раз у іх адпадае ўсялякая ахвотаісьці ў атрад.

Трэба ячэйцы зьвярнуць на гэта ўвагу, скінуўшы з сябе гультайства. Атрад стаў пастунова распадацца, між тым, працаваць з такімі хлопцамі можна.

**Ў.**



## Зімой.

Зарасьлі палянaчкі,
Тонуць у сьнягу...

Ой, як лёгка саначкі
Сьцежкаю бягуць...

Лес з гальлём асьнежаным
Замёр і стаіць,

Шлях яшчэ ня езжаны,
Палазом скрыпіць...

Мчацца лесам саначкі,
Ціха,—ні гу-гу...

Зарасьлі палянaчкі
Тонуць у сьнягу.

**Зьм. Астапенка.**

15/XII-26 г.


ПІОНЭРСКАЯ ЗІМА
У здаровым целе—
здаровы дух

# Па нашых школах.

## Бліжэй да настаўніка.

*(Ад нашага Харкаўскага дапішчыка).*

Многія вучні глядзяць на настаўніка, як на свайго ворага, які стараецца іх „зрэзаць“, паставіць дрэнную адметку. Ёсьць і такія вучні, якія ня слухаюць у часе вуроку настаўніка, дома таксама ня вучацца, а карыстаюцца падказамі сваіх таварышоў. Трапляюцца і вучні, якія „прынцыпіяльна“ не жадаюць адказваць, зьняважаюць настаўніка і г. д.

Быў у нашай школе такі выпадак: вучань сьвіснуў у часе вуроку. На запытаньне настаўніка, хто гэта зрабіў—усе хорам дружна адказалі:

— Мы ня ведаем!

Настаўнік хацеў высьці з клясы.

Гэты выпадак самі-ж вучні тлумачаць жаданьнем „абараніць“ свайго таварыша, а ў той-жа час забываюць аб сваім старэйшым таварышу-настаўніку. Вось гэтым наша школа робіцца падобнай да старой, царскай школы, дзе таксама вучні падказвалі, ня вучыліся, хуліганілі. Такія вучні: папершае, не разумеюць задач савецкай школы; падругое, не разумеюць і не паважаюць працы настаўніка.

**В. Бычко.**

У.С.С.Р.
Гор. Харкаў, 18-я школа.

## Не прыцягваюць а адцягваюць.

*(М-ка Багушэвічы).*

У нашай сямігодцы нічога ня робіцца дзеля таго, каб уцягнуць у справу самакіраваньня найбольш вучняў. Уся праца разьмяркована паміж нямногімі піонэрамі і комсамольцамі, якія маюць па 2—3 абавязкі, у той час, калі астатнія вучні ходзяць бяз усякай нагрузкі. Гэтыя нямногія актывісты ня даюць магчымасьці астатнім прыняць удзел у грамадзкай працы. Так не павінна быць. Трэба разьмеркаваць абавязкі паміж усімі дзецьмі роўнамерна.

**У. Сянькоўскі.**

## Непарадкі ў атрадзе і ў школе.

*(Вёска Бранчыцы, Старобінскага раёну, Слуцкай акругі).*

Наш атрад не карыстаецца ніякай увагай з боку ячэйкі ЛКСМБ. У выніку гэтага з ліку 63 піонэраў засталося 33, астатнія павыходзілі з атраду. Дысцыпліны таксама няма. Некаторыя піонэры навучыліся курыць, хуліганіць і г. д.



У школе таксама непарадкі. Настаўнікі кепска абыходзяцца з вучнямі (б'юцца і г. д.) і дрэнна на іх уплываюць. Хто нам дапаможа наладзіць працу і зьнішчыць школьныя непарадкі? *).

**Піонэр.**

## Зьвярнеце ўвагу.

*(Лагойск, Менскай акр.).*

Пры Лагойскай сямігодцы існуе форпост, які ніякай працы не вядзе. Піонэры ў школе не дысцыплінаваны: ня носяць гальштукаў, не аддаюць салюту і г. д.

Сходы форпоста рэдка калі бываюць, а калі бываюць, то на іх зьяўляецца палова з усяго ліку піонэраў. Наконт пашырэньня „Беларускага Піонэра“ наш форпост таксама нічога не зрабіў. Савет форпосту, зьвярні на гэта ўвагу!

**Я. Цьвік.**

---

*) Рэдакцыя лічыць, што мясцовая ячэйка ЛКСМБ павінна як найхутчэй разгледзець пытаньне, закранутае „піонэрам“ у сваім допісе.

# Аб усім патроху.

## Дапамаглі бяспрытульнаму.

*(Мазыршчына, Петрыкаўскі раён).*

Ня так даўно ў мясцовай бальніцы памёр адзін селянін, які пасьля сябе пакінуў 12-гадовага хлопца, без усялякага прытулку.

На гэту справу адгукнуліся піонэры і вучні. Пры іх дапамозе ўдалося сабраць на карысьць хлопца 15 руб. і паслаць яго ў сямігодку вучыцца. Цяпер бяспрытульны нам вельмі ўдзячан і жадае паступіць у піонэры.

**Арон Малочнік.**



**Вось такога роду танцулькі і іншыя „работы“ праводзяць багушэўскія комсамольцы разам з піонэр-комсамольцамі. Апошнія (піонэр-комсамольцы), трэба сказаць, усвайваюць добра сваю новую навуку і зусім забываюцца аб законах і звычаях юных піонэраў.**

**Што рабіць з такімі „піонэрамі“?—з плачам пытаецца ў нас павадыр.**

**Цяжка, бачыце, цяпер сказаць,—можна яшчэ справяцца?**

## Піонэры-краязнаўцы.

*(Высачанскі раён, Віцебшчына).*

Не пасьпеў гурток краязнаўства ў Бабынавічах разгарнуць працу па досьледу сваёй мясцовасьці, а піонэры мясцовага атраду зрабілі ўжо практычна першыя крокі ў гэтай галіне.

Пад кіраўніцтвам свайго павадыра і настаўніка-краязнаўца частка атраду праводзіць рэгістрацыю курганоў, якія ляжаць абапал дарогі з Бабынавіч на в. Сітна.

Дасьледавана, г. зн., вымерана вышыня, абхват навакол, каля падставы і даўжыня праз верх,—25 курганоў.

Дасьледваны курганы ня ўсе. Але тыя, што засталіся, дужа зруйнованы ўласьнікамі смалакурні, якія ў іх капалі ямы для бульбы.

Можна спадзявацца, што добры прыклад 1-га атраду піонэраў абудзіць ахвоту і ў другіх, якія дакончаць гэтую працу, бо навакол Бабынавіч знаходзіцца шмат курганоў.

**Свой.**

## А мы дапамагаем... словамі.

*(Зэмбін, Барысаўскай акругі).*

Ня гледзячы на тое, што ў нашым атрадзе шмат гавораць аб дапамозе бяспрытульным (нават організавана камісія па барацьбе з бяспрытульнасьцю), нічога ў гэтым напрамку ня робіцца. У „Таварыства прыхільнікаў дзяцей“ уступіла толькі 5 піонэраў.

Памойму ад такой „працы“ ня будзе ніякіх вынікаў. Патрэбна ўсім уступіць у т-ва і нават неорганізаваным, растлумачыўшы ім, што такое бяспрытульнасьць, тады толькі мы сапраўды зможам дапамагчы бяспрытульным, а то гаворым, гаворым і нічога ня робім.

**П. Бажок.**

## Наш шэф.

*(Бранчыцкі атрад, Случчына).*

Нашым шэфам зьяўляецца аддзяленьне Старобінскага каапэратыву, якое штомесячна адпушчае атраду па 2 рублі на выдаткі. Але кепска, што шэф ніколі не праводзіць з намі гутарак аб жыцьці каапэрацыі, з чым нашы піонэры зусім не знаёмы. Трэба на гэта зьвярнуць увагу шэфа, каб апошні ў далейшым праводзіў з намі належныя гутаркі аб гэтым пытаньні.

**А. Таміла.**

# На змаганьне з сухотамі!

*(З практыкі Магілеўскага тубдыспансэру).*

У сучасны момант лічыцца за ісьціну, што сухоты (тубэркулёз) у людзей дарослых бяруць свой пачатак з часоў дзяцінства. Цэлым шэрагам навуковых прац у розных краінах цьвёрда ўстаноўлена, што ўжо 70—90 проц. насельніцтва заражаны сухотамі да ўзросту 15—17 год.

Сучасны нарыс ёсьць лёгкая спроба падагульненьня матар'ялу, які прайшоў праз дзіцячае аддзяленьне Магілеўскага тубдыспансэру за справаздачнае паўгодзьдзе.

Гэта ўстанова зьмяшчаецца ў звычайным каменным будынку. Жыхарства да таго асвойчылася з думкаю аб карысьці тубдыспансэру, што бачыць у ім добрага і вернага паказчыка шляхаў, па якіх трэба весьці ахову здароў'я дзетвары.

* * *

Гучны заклік: „Падыходзьце па чарзе", і група старых бацькоў „у хвасьце", пад кіраўніцтвам служачага, з увагаю слухае лічбы з брошўры Магілеўскага статбюро аб „дзейнасьці тубдыспансэра". Гэта— тэй установы, якую ўсе ведаюць і не пужаюцца яе.

* * *

Вось гэтыя лічбы. Сьмяротнасьць ад тубэркулёзу за справаздачны год складала сярод дарослых— 42 чал., дзяцей— 31, г. зн., амаль аднолькова. За паўгода праз тубдыспансэр прайшло 740 дзяцей.

Патраплялі дзеці ў яго трыма шляхамі: ад дактароў, сёстраў—дасьледчыя—і з дзіцячых дамоў Магілева. У вапошніх яны былі абгледжаны дыспансэрам пагалоўна. Накіраваных дактарамі і сёстрамі было 465, з дзіцячых дамоў—276.

Усе прапушчаныя праз дыспансэр дзеці ацэньваліся ў першую чаргу з боку агульнага фізычнага разьвіцьця. Ацэнка гэта рабілася па агульнаму ўражаньню ад агляду грудной клеткі, а таксама па сытасьці дзіцяці. Правільная грудная клетка адзначана толькі ў 5 проц. дзяцей, а ў астатніх (95 проц.) грудная клетка аказалася больш-менш плыткаю, часьцяком няправільнаю.

Значны процант хвароб сярод яўрэйскіх дзяцей (38) тлумачыцца вялікаю скучанасьцю, цеснатой у яўрэйскіх кватэрах і горшым іх санітарным становішчам. Аб гэтым выразна кажуць весткі досьледу тубдыспансэра. Аздараўленьне гэтых кватэр і павялічэньне жылой плошчы разглядаецца, як адна з галоўнейшых мэт працы дыспансэру.

Трэба ўказаць на крайняе *перапаўненьне школ і клясаў, на адсутнасьць вэнтыляцыі ў іх і гарачага сьнеданьня, двароў і заляў.* Такое становішча школ ня можа не адбівацца на здароўі дзяцей. З розных тыпаў школ для слабых дзяцей болей простым і даступным зьяўляецца тып школы на адчыненым паветры. З прыведзенага матар'ялу, па думцы дыспансэрнага досьледу, выцякае неабходнасьць утварэньня гэткай школы ў Магілеве.

Вось куды прыводзяць разумныя клопаты аб здароўі дзетвары. Трэба змагацца з вялізарным бічом дзетвары— *сухотамі!*

* * *

Саўслужачы ў прыёмнай доўга растлумачваў бацькам-сялянам карысьць тубдыспансэру. Ён падмацоўваў свае довады ўказаньнямі на знаёмых яму дактароў, добра ведаючых пастаноўку справы заграніцаю. У некаторых краінах для вылучэньня сухотных грудных дзяцей— зараз-жа пасьля нараджэньня—утвораны спэцыяльныя організацыі. Такая сыстэма існуе ў Францыі, дзе дзеці аддаюцца ў адборныя сялянскія сем'і.

У Магілеве не ўдалося гэтага дасягнуць ні ў водным выпадку, значыць, і тут застаецца пад рукамі ўсё тэй-жа ядыны шлях — палепшаньне кватэр, і прышчэпка хворым санітарна-гігіэнічных навыкаў.

* * *

Агляд дзетвары і юнакоў зацягнуўся. Вось ужо і канец. Асобныя твары мільгаюць на ўсходах і двары.

Гэтыя твары нясуць у пролетарска-сялянскую гушчу новыя погляды і парады.

Яны дапамагаюць савецкай уладзе выкоўваць лепшае пакаленьне.

У добрую гадзіну!

**Мікола Камароўскі.**

Н. Вайнгаўз.

# У дапамогу дзеткоргурткам і рэдколегіям.

Дзіцячы корэспондэнтскі рух яшчэ надта малады, ён толькі пачынае станавіцца на ногі. Пагэтаму няма нічога дзіўнага ў тым, што адсутнічаюць паказаньні ў працы: як? што? і якім чынам?

### Хто такі дзяткор?

Да апошняга часу многія казалі, што дзяткорам можа быць толькі той піонэр, які мае нейкія „заслугі“ перад атрадам, школай і г. д. Абраныя дзяткоры вельмі ганарыліся сабой, насілі за вушамі доўгія алоўкі, дзе трэба і ня трэба тыкалі свой нос, пісалі доўгія артыкулы аб каапэрацыі, аб тым, што на прадпрыемстве заўком дрэнна працуе (іх справа?). Ці можа гэта быць, каб дзяткоры абіраліся? Зразумела, што не.

Дзяткорам можа быць кожны хлопец ці дзяўчына, якія пішуць пра жыцьцё піонэраў, альбо неорганізаваных дзяцей. Дзяткораў нельга абіраць—гэта павінна мець выключна добраахвотны характар, ніякіх асаблівых значкоў на грудзёх і білетаў у кішэні дзяткор ня носіць.

Дзяткорам можа быць кожны, хто не лянуецца, садзіцца ў вольны час і піша ў насьценную альбо друкаваную газэту допіс, апавяданьне ці верш. Дзяткор павінен быць цесна зьвязаным з атрадам і школай, толькі тады ён зможа добра высьвятляць працу атраду і школы.

На вялікі жаль, многія дзяткоры ня ідуць па гэтаму шляху і займаюцца такімі пытаньнямі, якія датычыцца рабкора, сялькора ці юнкора.

Дзіцячы корэспандэнт тым і адрозьніваецца ад рабкора і сялькора, што ён павінен высьвятляць выключна піонэрскія пытаньні.

Тэмаў, аб чым пісаць, знойдзецца шмат. У кожным атрадзе маюцца як дадатныя, так і адмоўныя бакі: праца клюбу, куткі, як праходзяць піонэрскія вечары, экскурсіі, сходы, заняткі па фізкультуры ці маецца сувязь з вёскай і якая праца там праводзіцца, праца зьвеньняў, як піонэры выконваюць свае законы і звычаі і г. д. Як бачыце, маецца аб чым пісаць.

А як вы думаеце: аб школе зусім няма чаго пісаць? Ёсьць такія пытаньні, аб якіх, бязумоўна, можна пісаць. Вось: як працуе форпост, праца вучкому, сувязь паміж вучнямі і настаўнікамі, як вучацца, хібы школьнай працы і як іх выправіць, праца піонэраў у сям'і, сярод неорганізаванных дзяцей і г. д. Абавязак кожнага дзяткора высьвятляць гэтыя пытаньні ў друкаванай альбо насьценнай газэце.

### Вучыся пісаць.

Лік дзяткораў расьце, як грыбоў пасьля дажджу. Насьценныя газэты ў атрадах і школах, зьяўляюцца літаральна закіданымі допісамі, зьмясьціць якія рэдкалегія ня мае ніякай магчымасьці. І трэба зазначыць, што большая частка допісаў вельмі дрэнна напісана. Дзяткор бачачы, што яго допіс ня зьмешчан, абураецца на рэдкалегію і „баста“, не хачу больш пісаць! Гэта няправільна. Калі допіс не пашоў, значыць ён дрэнна напісаны, гэта сьведчыць, што дзяткор яшчэ не навучыўся пісаць як належыць.



І пагэтаму кожны дзяткор, перш чым сесьці пісаць, павінен добра памятаць наступныя сем правілаў:

1) Перш чым сесьці пісаць, абдумай добра тэму.

2) Ня вер чуткам, пішы аб тым, што сам добра ведаеш.

3) У адным допісе ня зьмешвай разам некалькіх тэм, кожны допіс прысьвячай аднэй вызначанай тэме.

4) Пішы коратка, не загружай допіс лішнімі падрабязнасьцямі.

5) Старайся пісаць жыва, малюнкова, не рабі допіс сухім, як пратакол, бо тады ён нікога не зацікавіць.

6) Не ганіся за тым, каб шмат пісаць. Памятай: ня колькасьць, а якасьць допісаў патрэбна.

7) Пішы чытэльна, чыста, на адным баку паперы, атрамантам.

Гэтых сем правілаў павінен трымацца кожны дзяткор. Дзеля прыкладу як трэба і як ня трэба пісаць, пачытайце допісы піонэраў К. і Н., зьмешчаныя ў 10-м нумары „Б. П.“, у артыкуле „Гутарка з дапішчыкамі“.

**Які выгляд павінна мець насьценная газэта.**

Калі мы ведаем задачы насьценнай газэты, нам ужо лягчэй намеціць сабе яе зьмест. Аддзелы ў кожнай насьценнай газэце павінны быць прыблізна наступныя: 1) У нашым атрадзе; 2) Наша праца ў школе; 3) Наша сувязь з вёскай; 4) Дзіцячая творчасьць; 5) Куток дзяткора; 6) Куток акцябрат; 7) Нашы недахопы і 8) Паштовая скрынка.

У чым сутнасьць зьместу кожнага аддзелу паасобку?

Аддзел „У нашым атрадзе“—самы найважнейшы. У ім зьмяшчаюцца допісы, якія адбіваюць добрыя і дрэнныя бакі жыцьця атраду. Напрыклад: як мы працуем сярод неарганізаванных дзяцей, наша праца ў сям'і, як прашла гутарка, экскурсія, сход зьвяна і г. д.

У аддзеле „Наша праца ў школе“ трэба высьвятляць наступныя пытаньні: праца форпосту, вучкому, наогул ўсё, што датычыцца жыцьця і працы ў школе.

Да цяперашняга часу амаль усе атрады гораду прымацаваны да вясковых. Аддзел „Наша сувязь з вёскай“ павінен адбіваць жыцьцё вясковага атраду і дапамогу, якую робяць яму гарадзкія атрады.

Дзеці, якія складаюць вершы, апавяданьні, не павінны сароміцца. Яны павінны ўсё гэта прыносіць у аддзел „Дзіцячая творчасьць“.

Насьценная газэта павінна вучыць піонэраў пісаць. Ёсьць шмат піонэраў, якія стаяць перад насьценнай газэтай з расчыненымі ртамі, глытаюць кожнае слова, зайздросьцяць,—хочацца самім што-небудзь напісаць, але ня могуць, ня ведаюць, як пачаць! Такім дзецям і павінен дапамагчы „Куток дзяткора“, навучыць іх пісаць.

У піонэраў ёсьць зьмена—акцябраты. Каб адбіваць іх жыцьцё, патрэбна ў газэце таксама ім адвесьці маленькі куточак.

Самым цікавым у газэце павінен быць аддзел „Нашы недахопы“. Гэтую назву рэдкалегія можа па свойму жаданьню зьмяніць. У шмат якіх атрадах гэты аддзел завецца „Кракадзіл“, „Мікраскоп“ і г. д.

У гэтым аддзеле пішуць аб недахопах атраду, пажадана ў гумарыстычнай форме. Тут, зразумела, ня варта занадта захапляцца і прабіраць адзін другога за пустыя дробязі.

У „Паштовай скрынцы“ рэдколегія павінна рэгулярна весьці гутаркі з дапішчыкамі, даваць адказы піонэрам на іх заметкі.

Вельмі дрэнна робіць тая рэдкалегія, якая дае наступныя адказы: „Твой допіс ня пойдзе, альбо „дарэмна псуеш паперу, бо ня можаш пісаць“. Такімі адказамі мы не прыцягнем піонэраў да газэты, а, наадварот, адпіхнем.

У кожнай газэце мы сустрэнем артыкулы на розныя тэмы: об надыходзячай кампаніі, задачах атраду і г. д. Такія артыкулы не павінны пісацца рэдкалегіяй, як часта так і робіцца, а тым ці іншым піонэрам-карэспандэнтам. Трэба таксама памятаць, што ў насьценную газэту належыць пісаць коратка, унікаць доўгіх артыкулаў, якіх ніхто чытаць ня будзе.

У кожнай насьценнай газэце патрэбны малюнкі, карыкатуры, рэбусы і г. д. Трэба прыцягваць да газэты дзяцей, маючых здольнасьць да маляваньня.

*(Працяг будзе).*

# Як працаваць з газэтай.

### 1. Бяз карты газэта сьляпая.

У нас піонэры звычайна ня вельмі добра ведаюць гэографію.

Запытаешся ў іх, дзе горад Вена,—ня ведаюць. Скажаш ім, што Вена ў Аўстрыі, яны і Аўстрыі такой не ўяўляюць сабе.

А, між тым, ня ведаючы карты палова таго, што пішацца ў газэце будзе незразумелым.

Нядаўна ў газэтах пісалі, што Гішпанія імкнецца атрымаць Танжыр, Англія-ж аб гэтым і слухаць ня хоча. Чаму-ж Англія так непакоіцца?

Паглядзеце на карту і вы зразумееце ў чым справа.



Справа ў тым, што Танжыр ляжыць на вялікім морскім шляху. Гэты шлях злучае Англію з Эгіптам, Індыяй і Кітаем.

Ад эксплёатацыі гэтых краін жыве і багацее Англія. Яна павінна ўладаць усім гэтым шляхам. Гэта—для яе пытаньне жыцьця і сьмерці

Тое-ж самае і з Кітаем. Бяз карты вы ніколі не зразумееце, чаму кантонцы ідуць на Ханькоў і г. д.

Так, карта дапамагае чытачу.

З гэтай прычыны ў атрадзе, у школе паклапацецеся набыць карты.

Атлас вельмі дарагі, яго не заўсёды можна набыць кожнаму атраду.

Тады дастаньце хоць сусьветную карту (паўкулі). Каштуе яна рублі паўтары.

Наклейце яе на палатно і павесьце на сьцяну.

Паглядзеце газэту і выпішце самыя цікавыя падзеі, толькі вельмі коратка.

Напрыклад: у Гамбургу забаставала 2000 рабочых.

Кантонскімі вайскамі ўзяты Ханькоў (адзін з самых большых гарадоў у Кітаі).

Пушчана Штэраўская электрастанцыя.

Напішэце гэта на лістку вялікімі літарамі, лісток прымацуйце да сьцяны побач з картай. На карце, у тых мясцох, дзе адбыліся гэтыя падзеі, прымацуйце каляровыя сьцяжкі. Злучэце гэтыя сьцяжкі з надпісамі ніткаю.

Пад надпісамі напішэце: глядзі газэту (тую газэту, адкуль гэта было выразана).

Піонеры старэйшыя вельмі цікавяцца такою „картаю бягучых падзей“.

Толькі трэба зьмяняць надпісы і сьцяжкі не радзей аднаго разу ў тыдзень у атрадзе і не радзей 1 разу ў тры дні— у школе. І рабіць гэта рэгулярна.

У газэтах („Звезда“, „Савецкая Беларусь“) часта зьмяшчаюцца подобныя карты асобных мясцовасьцяй.

Выражце такую карту і прымацуйце да сьцяны.

А потым можна зрабіць з іх альбом у выглядзе атласу.

### 2. Не павінна быць незразумелых слоў.

А яны сустракаюцца нават у піонэрскіх газэтах і часопісях. У газэтах-жа для дарослых іх колькі хочаш:

Інтэрвэнцыя, окупацыя, стабілізацыя...

Не зразумееш іх—іншы раз і ўся тэлеграма будзе незразумелай.

У школе іх тлумачыць настаўнік.

У атрадзе—павадыр (ды і то не заўсёды).

Лепш за ўсё мець пад рукою слоўнік чужаземных слоў.

### 3. Як працаваць у атрадзе.

Праца павінна праводзіцца ў зьвяне. На зборы зьвяна можна вылучаць хвілін 15-25 для галоснага чытаньня газэты і абмену думкамі аб прачытаным (гутарцы).

Калі зьвяно складаецца з малодшых піонэраў, чытаць трэба „Піонэрскую праўду“.

Зьвяну старэйшых піонэраў-комсамольцаў больш падыдзе „Чырвоная зьмена“, „Беларуская вёска“.

Усёй газэты не прачытаеш; трэба выбраць адну тэму; падзеі ў Літве, праца ў школе і г. д.—гледзячы, якая газэта і якое зьвяно будзе чытаць.

У выбары тэмы трэба параіцца з правадыром атраду. Калі газэта штодзенная, лепш мець усе нумары яе за тыдзень і прачытаць самае цікавае.

„Піонэрская Праўда“ дапаможа разгарнуць гутарку—тэмы яе вельмі блізкія да жыцьця і працы піонэраў.

Такія чыткі займуць ня вельмі шмат часу і прывучаць піонэраў да газэты.

Але гэтага ня досыць,—патрэбна яшчэ праца для ўсяго атраду. У іншых атрадах ёсьць бібліотэчнае зьвяно. Яму-ж можна даручыць і працу з газэтай. Такое зьвяно пабудуе карту „бягучых падзей“, паклапаціцца аб тым, каб у атрадным клюбе былі газэты. Лепш усяго выпісваць „Піонэрскую Праўду“, „Чырвоную зьмену“, „Звезду“ і „Савецкую Беларусь“.

Яно-ж наладзіць чытку ў атрадным клюбе. Для такой чыткі лепш за ўсё выбраць ці вельмі цікавыя паведамленьні ці вясёлы фэльетон.

Гэтае-ж зьвяно будзе падшываць „Піонэрскую Праўду“. Падшытыя нумары не загубяцца, і атрад будзе мець газэты за ўвесь год.

Ён-жа складзе сшыткі выразак.

Сшыткі выразак на якую-небудзь адну тэму складаюцца разам і атрымліваецца цэлая цікавая кніжка па таму ці іншаму пытаньню.

### 4. Як працаваць з газэтай у школе.

Гэта справа форпосту.

Мэтай працы з газэтай зьяўляецца прывучыць усіх вучняў, пачынаючы з 3-й і 4-й групы, чытаць газэту і разумець яе.

Як гэта зрабіць?

Перш за ўсё—пабудаваць карту бягучых падзей. У школе лягчэй пабудаваць чым у атрадзе: папершае, піонэры бываюць у школе кожны дзень; падругое, карты лягчэй дастаць; патрэцяе, настаўнік-грамадазнаўца дапаможа. Далей форпост павінен паклапаціцца, каб у школьным клюбе ці чытальні былі газэты.

Настаўнік-грамадазнаўца ніколі не адмовіцца працаваць у газэтным гуртку, калі гэткі будзе організаваны. У гуртку піонэры могуць чытаць розныя газэты, вучыцца, як імі карыстацца, атрымоўваць веды па тых пытаньнях, аб якіх пішацца ў газэтах.

### 5. Газэта ў сям'і.

Калі ў цябе ў сям'і газэт ня чытаюць, зрабі так, каб чыталі.

Раскажы што-небудзь цікавае для хатніх, што ты прачытаў у газэце.

Прачытай сам ці папрасі бацьку прачытаць.

Калі маці няпісьменная, чытай ёй газэту рэгулярна.

### 6. Агітуй за газэту.

Піонэрам мала самім навучыцца чытаць газэту і працаваць з ёю. Яны павінны дабіцца таго, каб іншыя дзеці яе чыталі.

Самая лепшая агітацыя за газэту будзе праца з ёю, аб якой вы толькі што прачыталі.

Акрамя таго:

Калі ёсьць два лішніх экзэмпляры газэты, вывесьце яе ў школе, у клюбе на пляцоўцы, у сталоўцы.

Агітуйце за газэту ў сваёй насьценнай газэце.

Агітуйце плякатамі.

Організуйце дзяцей у маленькія групкі і праводзьце з імі чытку газэт.

**Ігнат.**

# Чорны кот.

**Камэдыя ў аднэй дзеі для дзяцей сярэдняга ўзросту.**

**А с о б ы:**

МАЦІ.
ГАНУЛЯ—старэйшая дачка, якая дапамагае ў гаспадарцы.
ПЯТРУСЬ—сын.
ЮРКА—сірата, піонэр, які жыве ў цёткі.

Сцэна ўяўляе пакой, дзе стаяць дзьве шафы і стол.

З ь я в а 1-ая.

МАЦІ і ГАНУЛЯ.

*(Ганyля мяце хату).*

Маці: Не разумею, што гэта робіцца ў нас! Кожны дзень штонебудзь ды пабіта; учора шклянка, сёньня шкло ад лямпы... *(глядзіць на стол).* Аднак, здаецца, зноў навіна... Ганyля, ты ня ведаеш, часам, хто пабіў гэты сподак?

Ганyля: Дзе, мамка?

Маці: Вось на стале.

Ганyля *(разглядае сподак)*: Ды такі-ж прыгожы сподак быў, а засталіся адны чарапкі!

Маці: Хто-ж гэта зрабіў? Мусіць, ці Пятрусь, ці Юрка,—хто-небудзь з іх? Я ўпэўнена, што гэта зрабіў Пятрусь, бо тутака засталося было троху цукру.

З ь я в а 2-ая.

МАЦІ, ГАНУЛЯ, ПЯТРУСЬ і ЮРКА.

*(Убягае Пятрусь з кніжкамі, за ім паважна ўваходзіць Юрка з сшыткам у руцэ).*

Маці: Вы павінны зараз-жа сказаць, хто пабіў гэты сподак?

Пятрусь: Гэта ня я, мамка!..

Юрка: Я яго ня бачыў, цётачка!

Маці: Ганyля таксама яго не пабіла!

Пятрусь: Мамка, а можа вецер?..

Маці: У цябе заўсёды хто-небудзь вінен, толькі ня ты. Не разумею, адкуль можа ўзяцца вецер, калі вакно заўсёды зачынена.

Пятрусь: Мамка, ведаеш, гэта зрабіў чорны кот; я яго бачыў тутака, а пасьля пачуў, як нешта звалілася; кот хутчэй выскачыў праз дзьверы.

Маці: І калі толькі гэты „кот“ перастане рабіць шкоду? Што ні здарыцца—усё ён вінен...

Пятрусь: Ды не, праўда!

Маці: Добра, але-ж глядзі, я прыпільную хто вінен! *(выходзіць).*

Зьява 3-я.
ПЯТРУСЬ, ЮРКА і ГАНУЛЯ.


Менская „конка“ (служыць заместа трамваю, якога ў Менску няма).

Юрка: Запраўды такі, гэты кот надта шкодны: то зьесьць маё сьнеданьне, што цётка ў школу дае, то аберне бутэльку з атрамантам і выпэцкае ўсе кніжкі...

Ганулял: А я ўпэўнена, што кот ня вінен.

Пятрусь (*сьмяецца*): А хто-ж вінен? Можа ты яму дапамагаеш больш шкоды рабіць?

Ганулял: Ды што з табою дарма гаварыць, усёроўна праўды ня знойдзеш. Пайду лепш памагу мамцы аладкі пячы (*ідзе да дзьвярэй*).

Пятрусь (*скачучы*): Як? У нас сёньня будуць аладкі?

Ганулял: Так, аладкі, ды яшчэ са сьмятанаю (*выходзіць*).

Зьява 4-ая.
ПЯТРУСЬ і ЮРКА.

Пятрусь: Як гэта весела! Ну, Юрка, давай пагуляем у што-небудзь!

Юрка: А вучыцца?

Пятрусь: Вучыцца яшчэ пасьпеем, а калі ня зробім, што трэба, скажам настаўніку, што часу ня было, або яшчэ што-небудзь прыдумаем такое.

Юрка: Як табе ня брыдка! Ты заўсёды гаворыш няпраўду.

Пятрусь: Ну, і што-ж? аб гэтым ніхто не даведаецца!

Юрка: Помні, што трэба заўсёды гаварыць праўду.

Пятрусь: Вось, і ты ўжо настаўнікам стаў.

Юрка: Ты, мусіць, забыўся, як расказваў нам настаўнік пра Леніна, які ён быў малым, як ён стараўся вучыцца, як заўсёды гаварыў праўду. Усім нам ён падабаецца; нават і ты тады казаў, што хочаш быць такім, як Ленін.

— Пятрусь: Досыць аб гэтым гаварыць! Мне сумна і зусім вучыцца ня хочацца.

— Юрка: Табе вучыцца ня хочацца, дык і сумна, а я пайду ўжо. У мяне заўтра самастойная праца, трэба падрыхтавацца (*выходзіць*).

Зьява 5-ая.

ПЯТРУСЬ і ГАНУЛЯ.

*(Ганупя нясе ў ваднэй руцэ конаўку, у другой талерку і падыходзіць да шафы. Пятрусь ціхенька крадзецца за ёю, каб зірнуць, што там у конаўцы).*

Гануля *(азіраецца)*: Я бачу, што ты крадзешся!.. *(Ставіць конаўку на стол, а талерку ў шафу. Конаўку накрывае дошчачкаю, у гэты час Пятрусь адчыняе шафу, каб сьцягнуць з талеркі)*. Ня руш!

Пятрусь: Я толькі адну вазьму! Мама не даведаецца.

Гануля: Не, ня можна! Мама ўбачыць і запытаецца, а хлусіць я ня ўмею.

Пятрусь: А што ты паставіла на стале?

Гануля: Табе ўсё трэба ведаць!

Пятрусь: Я і так ведаю: там сьмятана!

Зьява 6.

ТЫЯ-Ж І МАЦІ.

Маці *(уваходзіць)*: Пятрусь, што ты тутака робіш?

Пятрусь: Як што? Я вучуся!

Маці: Дзе-ж твая кніжка?

Пятрусь: Кніжка? *(шукае яе навакол)*. Ах! дык яна-ж у Юркі!

Маці: Ты зноў вучышся гаварыць няпраўду.

Пятрусь: Да не, мамка!

Маці: Ну, ідзі да Юркі і вучэцеся разам. *(Пятрусь выходзіць)*.

Зьява 7.

МАЦІ І ГАНУЛЯ.

Маці: Ты, я бачу, зрабіла ўсё як трэба: сьмятану пакінула на стале, а талерку з аладкамі схавала; цяпер застаецца толькі прынесьці ката.

Гануля: Зараз я яго прынясу *(выходзіць)*.

Зьява 8.

МАЦІ *(адна)*.

Трэба выкрыць усю няпраўду, што да гэтага часу Пятрусь гаварыў. Няўжо і гэта яму не паможа...

Зьява 9.

МАЦІ І ГАНУЛЯ.

Гануля *(прыносіць ката)*: Вось і кот!

Маці *(бярэ ката і хавае ў другую шафу, потым закрывае яе на ключ)*: Ну, пойдзем, толькі-ж ты нікому не гавары, дзе кот. *(выходзяць)*.

Зьява 10.

ПЯТРУСЬ *(адзін)*

Пятрусь *(ускаквае з кніжкаю)*: Эй, да мамкі то няма, дык можна кінуць кніжку *(кідае яе ў куток, сам скача)*. А добры полудзень у нас сёньня: *(лічыць)* крупеня смачная ў малацэ, каўбасы сьвежыя, ды, нарэшце, аладкі са сьмятанаю. А добра было-б сьмятаны і цяпер па-

каштаваць! (*азіраецца*) Э, ды яе забыліся схаваць, прыкрылі толькі зьверху; ну, што-ж, калі я троху пакаштую, яны і не заўважаць (*бярэ асьцярожна і каштуе няўдала так, што ўвесь твар запэцкаў*). Ах, як смачна, як прыемна!

З ь я в а 11.

ПЯТРУСЬ І ЮРКА.

Ю р к а (*уваходзіць*): Ну, я ўсе лекцыі ўжо вывучыў, а ты? Дзе-ж ты запэцкаў так свой твар?

П я т р у с ь: Няўжо я брудны? Маўчы, Юрачка, ты толькі маме не кажы (*сам абціраецца рукавом*).

Ю р к а: Ну, добра... а вось і цётка!

З ь я в а 12.

МАЦІ, ПЯТРУСЬ І ЮРКА.

М а ц і: Пятрусь, што ты тутака робіш?

П я т р у с ь: Я... я... прышоў сюды ўзяць карту.

М а ц і: А якая гэта карта ў цябе на твары намалявана?

П я т р у с ь: Ах... гэта... (*сьмяецца*) Вось што, мамка, чорны кот!..

М а ц і: Зноў чорны кот!

П я т р у с ь (*паказвае на конаўку*): Вось бачыш тутака была сьмятана...

М а ц і: Я ведаю, што тутака была сьмятана.

П я т р у с ь: Дык вось што, мамка! Чорны кот ускочыў на стол і пачаў лізаць сьмятану. Я гэта ўбачыў, схапіў яго... ды выкінуў... Ну, а ў яго лапы і морда былі ў сьмятане, я і запэцкаўся.

М а ц і: Ты зноў хлусіш!

П я т р у с ь: Ды не, я праўду кажу!

М а ц і (*дае яму ключ*): Вазьмі адамкні тую шафу!

П я т р у с ь (*адмыкае; выскаквае кот*): Ай!

М а ц і: Вось бачыш, дзе быў кот!

З ь я в а 14.

ТЫЯ-Ж І ГАНУЛЯ.

(*Уваходзіць Ганула*).

М а ц і: Ну, што ты цяпер скажаш? Добра гаварыць няпраўду!?

Г а н у л я (*забірае і лашчыць ката*).

М а ц і: Ну, дзеці, пойдзем палуднаваць, а Пятрусь застанецца і падумае, ці добра так рабіць, як ён рабіў да гэтага часу (*усе выходзяць, застаецца толькі Пятрусь*).

П я т р у с ь (*адзін*): Добра, вось Юрка—піонэр; Гануля ўжо вялікая, дык яны заўсёды праўду гавораць, а мне цяжка сачыць за сабою. Ужо колькі разоў даваў сам сабе слова, што буду такім, як яны... Не, трэба запісацца ў атрад... Пайду сёньня-ж да павадыра прасіць, каб прынялі... Толькі атрад можа выхаваць мяне. Дык пайду зараз-жа, раскажу павадыру, які́м я стаў, ён зразумее мяне і дасьць магчымасьць мне паправіцца.

(*Заслона*).

З расійскае мовы пераклала і апрацавала **Казакевіч.**

# Першая дапамога.

Вельмі часта ў часе прагулак-эскурсіяў, або заняткаў па фізвыху, з намі могуць здарыцца розныя няпрыемнасьці. Ніхто з нас не забясьпечан ад няшчасных здарэньняў.

Павадыр павінен прадбачыць магчымасьць такіх выпадкаў і прыняць да гэтага адпаведныя меры, бо калі ён ня зробіць гэтага, ён гэтым самым страціць сваю аўтарытэтнасьць сярод піонэраў.

Якія-ж і калі такія няшчасныя выпадкі могуць здарыцца з намі?

Найбольш няшчасных здарэньняў прыпадае на зіму, з іх вядома ўсім гэта, так званнае *„адмарожваньне“*. Ці то пойдуць хлопцы коўзацца на ваньках, ці з гары на санках, ці, нарэшце, пойдуць у сьцюдзёны дзень на эскурсію—заўсёды ў такіх разох магчыма сабе што небудзь адмарозіць (вуха, руку, нагу).

**Адзнакі адмарожваньня.**

Адмёрзлая частка цела—палец, нос, вуха, шчокі—робяцца зьмярцьвелымі, бялявага колеру, гэтая частка цела не адчувае тады ніякае болі.

Што тады трэба рабіць? Як толькі заўважана адмарожваньне, трэба зараз-жа асьцярожна, тут-жа на паветры, спачатку слаба, а потым мацней расьціраць адмёрзлую частку цела сьнегам. Расьціраць трэба да таго часу, пакуль абмёрзлае месца ня стане жывым. Пасьля гэтата трэба расьціраць шарсьцянай рукавіцай, або шапкай да таго часу, пакуль цела стане чырвоным. Нарэшце абмёрзлае месца пажадана намазаць якім небудзь жырам (маслам, салам і іншым), і завярцець у што небудзь, бо абмёрзлае месца вельмі часта зноў замярзае. Калі расьціраньне недапамагло, трэба зьвярнуцца да доктара.

**Вывіхі і пераломы**

Здараюцца асабліва пры коўзаньні на санках і лыжах. Вывіх здараецца ў якім небудзь суставе, часьцей усяго ў каленцах або ў лакцёх. Галоўныя адзнакі вывіха: 1) надзвычайная боль пры спробе заварушыць нагой ці рукой; 2) павярнуць руку магчыма не ўва ўсе бакі; 3) форма сустава зусім зьмяняецца.

Што тады трэба рабіць? Ні ў якім выпадку не рабіць спробы папраўляць вывіх самому. Трэба зараз-жа вывіхнуты сустав заставіць такім як ёсьць, а хворага перавезьці да доктара.

*Пералом.* Пералом можа быць адчыненым, калі пераломленая костка разадрала акаляючую мышцу, або простым, калі мышца застаецца цэлай.

Вызначыць пералом магчыма па наступных адзнаках: 1) пераломленая частка траціць правільную форму; 2) паламаная рука ці нага робіцца карацейшай; 3) пацярпеўшы ня можа найчасьцей зусім паварушыць тым месцам, дзе здарыўся пералом, ня можа карыстацца нагой ці рукой.

Што трэба рабіць? Пры простым пераломе трэба палажыць хворага, або пасадзіць так, каб зломленая частка прыняла найбольш спрыяючае становішча. Пасьля патрэбна зломленую частку абгарнуць чым-небудзь мяккім (фуфайкай, кашуляй). Нарэшце трэба хворага зараз-жа адвезьці ў лячэбніцу.

*Сьцяканьне крыві з носа зьяўляецца часта ў часе заняткаў.* Што рабіць тады? Трэба палажыць, або пасадзіць пацярпеўшага, закінуць яму галаву назад, расьцягнуць каўнер і на лоб і пераносіцу палажыць халодны кампрэс (халодныя прымочкі), а калі можна, дык сьнегу.

Калі паказаны спосаб не дапамагае, трэба палажыць у ноздру, з каторай цячэ кроў, шматок ваты і прымусіць такога піонэра сядзець да таго часу, пакуль кроў ня спыніцца.

*Гузы.* Увесь час хлопцы ходзяць з гузамі і асабліва зьвяртаць на гэта ўвагі ня варта, але калі выцятае месца пачне апухаць, трэба на гэта месца палажыць халодны кампрэс. Часта бываюць выпадкі, што ў вочы пападаюць розныя парушыны. У такім выпадку неабходна вока прамыць чыстай белай хусткай.

Усе вышэй зазначаныя спосабы асабліва трэба ведаць павадыру, бо ён, як старэйшы, павінен у такіх няшчасных выпадках заўсёды даць дапамогу таму ці іншаму піонэру.




**Малевічу, А.** Твой лірычны верш „Ой шуміць аер“ мае наступныя недахопы: у вершы адсутнічае і разьмер, і рытм, шмат радкоў напісаны няправільнай мовай, як напрыклад:

...Рос я час дзіцячы,
Рос,
Сумаваца ня мог...

**Грахоўскаму, С.** Твой допіс і вершы атрымалі. Але друкаваць ні таго, ні другога нельга. У допісе адзначаны зусім дробны факт. Вершы твае больш падыходзяць да насьценнай газэты, чым „Бел. Піонэра“. Пакуль што, браця, вучыся, чытай, бо для таго, каб напісаць добры верш, трэба ведаць як, што і аб чым пісаць.

**Сяліцкаму, У.** Твае допісы скарыстаем у чарговым нумары.

**Верашчаку.** Вершы ня пойдуць: напісаны слаба.

**Яфанчыку, М.** Верш слабы, друкаваць нельга.

**Блошкіну, М.** Вашу песьню „Я піонэр“ надрукаваць ня можам, зьмест песьні ў некаторых месцах не адпавядае сутнасьці. У вашай песьні праўвялічана роля піонэра. Напісана песьня гладка. Пішэце больш.

**Варшалу, М.** Твае допісы часткай скарыстаем.

**Домнія, Р. і Кантаровіч.** Допіс ваш спазьніўся, надрукаваным ня будзе. Допісы, якія пасылаюцца ў часопісь, могуць зьмяшчацца і ў сваёй насьценнай газэце.

**Курбацкаму.** Вершы твае скарыстаем у чарговых нумарох. Напісаны нішто-б сабе. Пішы больш.

**Грышку, Клёну.** Вершы друкавацца ня будуць. Шлі больш, каб было з чаго выбраць.

**Бязбожнаму, М.** Пішы, браця, лепш на тэмы, блізкія да жыцьця дзяцей, атраду, школы і г. д. Прысланыя табой вершы зьмешчанымі ня будуць, слабаваты.

**Трусу, В.** Допісы скарыстаем.

**„Сваййму“.** Аб Колю І. лепш усяго напішы ў сваю насьценную газэту, для часопісі гэта не падыходзіць.

**Астапенку Зьм. і Таўбіну.** Некаторыя вашы вершы скарыстаем. Аўтарскія нумары будзем высылаць.

**Канаткевічу.** Допіс атрымалі. Шлі больш. Напішы точны свой адрас.

**Ляшко, Р.** Раней тваіх матар'ялаў рэдакцыя не атрымлівала. Допіс „Добрае ядро Комсамолу“ не падыходзіць да часопісі. Прыглядайся да допісаў, якія зьмяшчаюцца ў часопісі і на іх вучыся як і што трэба пісаць.

Усім іншым дапішчыкам акажам у чарговым нумары.

# Запытаньні і адказы.

## Запытаньні дзяткораў.

1) На колькі месяцаў выбіраецца сакратар піонэрскага атраду. *(Шмакаў)*.

2) Ці можа атрад рэкамэндаваць у комсамол піонэра, які ня здаў урачыстага абяцаньня.

3) Што рабіць з тым піонэрам, якому маецца 16 гадоў, але ён яшчэ не падрыхтаваны дзеля ўступленьня ў КСМ. *(Я. Астрэйка)*.

4) Ці можна піонэру-комсамольцу прымаць удзел у скоках на вечарынках. *(Шадэўскі)*.

5) Ці абавязкова піонэру і павадыру атраду насіць гальштукі *(Шадэўскі)*.

6) Ці лічыцца дзяткорам той, хто піша допісы ў „Беларускі Піонэр“ *(Вярбовіч)*.

7) Ці можна піонэру стаць памоцнікам павадыра атраду.

8) Ці можна пасылаць допісы ў „Піонэрскую Праўду“.

## Адказы.

1) Сакратар атраду абіраецца на нявызначаны тэрмін. Калі ён не спраўляецца з сваімі абавязкамі, яго можна зьмяніць.

2) Ня можа.

3) Такога піонэра трэба вызваліць з атраду, параіўшы яму наведваць комсамольскую ячэйку.

4) Забараніць скакаць яму, бязумоўна, ніхто ня можа на тых вечарох, дзе прымаюць удзел і комсамольцы, няхай сабе паскача, але захапляцца скокамі ня варта.

5) Абавязкова.

6) Бязумоўна, лічыцца.

7) Як павадыр, так і памоцнік павінны быць абавязкова комсамольцамі і вылучацца ячэйкай.

8) Можна.

Выданьне НКА БССР. Рэдактар—**Рэдколегія**.




### Задача № 1

| | | |
|---|---|---|
| | Р | |
| К | О | Т |
| Л | А | Д |
| Я | М | А |
| Ч | А | Н |

Знайдзеце ў літарах гэтай фігуры назву вядомай беларускай літаратурнай організацыі і прозьвішча яе сябра, вядомага пісьменьніка.

### Задача № 2

—АРА
В—КА
СА—А
ЕДЗ—
—ІС
БЕЛ—

Дабаўце да гэтых слоў адпаведныя літары, якія пры чытаньні зьверху ўніз павінны скласьці нядаўна далучаны да Беларусі горад.

### Задачка № 3

88 падзяліць на дзьве часткі гэтак, каб засталіся адны нулі.

### Задачка № 4

З дзесяці сярнічак скласьці слова „комсамол“.

### Задачка № 5

З чатырох пяцёрак злажэце дзьве розныя беларускія літары.

### Задачка № 6

Я Вашы хаты асьвятляю, кручу машыны; перавярнеце мяне, і я — мышэй лаўлю.

### Жарт.

#### У цягніку.

Д з я ў ч ы н к а: Матуля, чаму гэта кантралёр адарваў у нас па кавалачку білета?

М а ц і: Гэта, дачушка, затым, каб цягніку лягчэй стала везьці.

### Задача № 7

Напішэце трыма дзевяткамі (9, 9, 9) 10, не карыстаючыся іншымі лікамі.

### Арытмэтычная задача № 3.

Піонэрскае зьвяно аднаго атраду парашыла калектыўна выпісаць на 2 месяцы 1 экзэмпляр „Беларускага Піонэра“. Каб атрымалася дадатковая дзеля гэтай мэты сума, кожны сябра зьвяна ўнёс па пэўнаму і аднолькаваму ліку грошай. Калі усе грошы былі сабраны, зьвяно даведалася аб зьніжэньні падпісной платы на часопісь з 20 да 15 кап. у месяц. Такім чынам, пасьля выпіскі на 2 месяцы 1 экз. часопісі, зьвяну ўдалося зьберагчы пэўную суму, якая складала ўзносы 2 піонэраў.

Патрэбна высьвятліць 1) колькі піонэраў было ў зьвяне, 2) паколькі грошай яны ўнесьлі.

---

Рашыў **Міхась Камінскі**

З папярэдняга нумару:

1) Задачу № 1 (Сталін) і 2) Задачу № 2 (Купала-Мужык).